# № 11 „ПАРТРАБОТНІК“

Стар.




Галоўлітбел № 2742. Зак. № 3236. У ліку 2000 экз. „Палесдрук“, Гомель

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 11 | Жнівень 1930 г. | № 11

## АБ ЛІКВІДАЦЫІ АКРУГ

### Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 15 ліпеня 1930 г.

Ва ўсёй рабоце па ліквідацыі акруг неабходна выходзіць з асноўнай задачы—максымальнага набліжэньня партыйнага, савецкага, гаспадарча-кооперацыйнага і прафсаюзнага апарату да раёну і сяла. З прычыны вялізарнай палітычнай важнасьці ліквідацыі акруг ЦК прапануе ўсім ЦК компартый, крайкомам, абкомам забясьпечыць дакладнае штодзённае кіраўніцтва ва ўсёй практычнай рабоце па ліквідацыі акруг, разьясняючы і мобілізуючы грамадзкасьць для пасьпяховага і шпаркага правядзеньня гэтай рэорганізацыі.

ЦК падкрэсьлівае няправільнасьць тэндэнцый, што намячаюцца, на адцягваньне тэрмінаў ліквідацыі акруг і новага перагляду граніц раёнаў у бок іх узбуйненьня і фактычнага іх ператварэньня ў павет, што супярэчыць паказанай вышэй асноўнай задачы пры ліквідацыі акруг. ЦК прапануе:

1) Ліквідацыю акруг пачаць безадкладна і скончыць да новага гаспадарчага году, г. зн., да 1 кастрычніка, пры гэтым выходзіць з налічча сеткі і граніц, існуючых у раёнах (выключэньні з гэтага правіла могуць дапускацца толькі з дазволу ЦК)). У гарадох застаюцца гарадзкія комітэты партыі, гарсаветы і гарвыканкомы з далучэньнем да гораду бліжэйшага сельскага раёну.

2) ЦК нацкомпартый, крайкомы, абкомы, а таксама ЦВК саюзных рэспублік і вобласьцяй і крайвыканкомы павінны ўжо зараз перайсьці да непасрэднай сувязі з раёнамі. Для гэтага яны павінны перабудаваць работу ўсіх абласных і краявых апаратаў тварам да раёну і сяла.

Апараты абкомаў і абласных выканкомаў павінны быць безадкладна ўзмоцнены, асабліва неабходна пашырыць колькасна і палепшыць якасна інструктарскі апарат.

Сэкратарыяты ЦК нацкомпартый, крайкомаў, абкомаў, а таксама прэзыдыумы адпаведных выканкомаў павінны перабудаваць сваю работу такім чынам, каб былі забясьпечаны непасрэдная сувязь і кіраўніцтва раёну. У зьвязку з гэтым павінны быць пераразьмеркаваны абавязкі з тым, каб адзін з сэкратароў і намесьнік старшыні выканкому заняўся выключна пытаньнямі сельскай гаспадаркі і наладжваньнем сувязі з раёнамі.

3) Да канчатковага афармленьня раённых органаў і ўмацаваньня сувязі іх з абкомамі лічыць неабходным пакінуць у

існуючых зараз акруговых цэнтрах, што вызначаюцца абкомамі, тэхнічныя бюро сувязі, прыкладна, на 3-6 месяцаў у залежнасьці ад патрэбы.

4) Галоўная ўвага павінна быць зьвернута на выкарыстаньне аслабанёных акруговых работнікаў. Пры гэтым ня менш 90 проц. работнікаў павінна быць накіравана на работу ў раёны. Разьмеркаваньне акруговых работнікаў, якія аслабаняюцца, праводзіцца краявымі і абласнымі комітэтамі. Кіруючая група акруговых работнікаў (20 чал.) разьмяркоўваецца згодна зацьверджаньня ЦК УсеКП(б).

5) Даручыць організатарскаму аддзелу, разьмеркаваўчаму аддзелу, культпропу ЦК тэрмінова распрацаваць адпаведныя практычныя мерапрыемствы (штаты парторганізацый, забесьпячэньне за работнікамі, якія перакідваюцца, адпаведнай, прыкладна, да акруговага маштабу зарплаты, перагляд сеткі газэт, з стварэньнем газэт у буйнейшых раённых цэнтрах і г. д.) і ўнесьці ў двухдэкадны тэрмін на зацьверджаньне оргбюро ЦК.

6) Даручыць фракцыі ЦВК, Саўнаркому і ЦКК-НК РСІ распрацаваць у двухдэкадны тэрмін і ўнесьці на зацьверджаньне ЦК усе савецка-гаспадарчыя мерапрыемствы, якія вынікаюць у сувязі з ліквідацыяй акруг (дырэктывы па складаньні бюджэту на новы гаспадарчы год з тым, каб бюджэт новага гаспадарчага году будаваўся параённа; устанаўленьне штатаў раёнаў і вобласьцяй і г. д.).

Фракцыі ЦВК распрацаваць проект пастановы па ліквідацыі акруг і пасьля разгляду яе ЦК унесьці на зацьверджаньне на бліжэйшай сэсіі ЦВК Саюзу, якую склікаць не пазьней верасьня месяца.

7) ЦК абавязвае ЦК нацкомпартый, краявыя і абласныя комітэты сыстэматычна адзін раз у дэкаду паведамляць ЦК УсеКП(б) аб ходзе работы па ліквідацыі акруг.



# Тварам да раёну

„Зьезд цалкам і поўнасьцю адабрае рашэньне ЦК *аб ліквідацыі акруг* і аб узмацненьні раёну, як асноўнага зьвяна социялістычнага будаўніцтва ў вёсцы“...
(З рэз. XVI зьезду партыі па справаздачы ЦК)

Работа па ліквідацыі акруг ідзе ўзмоцненым тэмпам, і гэтым мы ўжо выконваем адно з важнейшых мерапрыемстваў у галіне ўзмацненьня раёну, як асноўнага зьвяна ў сыстэме кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам у вёсцы. Ліквідацыя акруг, якая адыграе вялікую ролю ў мэтах узмацненьня дыктатуры пролетарыяту, палягае ў тым, што, папершае, за лік ліквідацыі акруг мы маем магчымасьць пасіліць усе зьвеньні раённых організацый кваліфікаванымі працаўнікамі, спэцыялістамі, матар'яльнымі сродкамі і тэхнічнымі працаўнікамі. Мы ’шчэ ніколі не давалі адразу дадаткова столькі людзей і матар'яльных рэсурсаў раёнам, колькі мы маем магчымасьць даць цяпер у сувязі з ліквідацыяй акруг. Падругое, ліквідацыяй акруг і зьнішчэньнем стаўшага лішнім акруговага зьвяна ўва ўсёй сыстэме нашых організацый мы зьвязваем раёны непасрэдна з цэнтральнымі рэспубліканскімі кіруючымі дырэктыўнымі і опэратыўнымі організацыямі і ўстановамі.

Узмацненьне сувязі раёну з цэнтральнымі ўстановамі дасьць магчымасьць цэнтру мацней зьвязацца непасрэдна з пролетарскімі цэнтрамі, бліжэй падыйсьці да патрэб месц, забясьпечыць больш кваліфікаванае кіраўніцтва ўсімі процэсамі, якія адбываюцца ў горадзе і ў вёсцы. Зьнішчэньне акруг азначае гіганцкае набліжэньне ўсяго апарату дыктатуры пролетарыяту да мас. Раён, уладаючы ўсімі асноўнымі правамі акруг, гарсавет і сельсавет, уладаючы ўсімі асноўнымі правамі раёну,—хіба гэта не азначае вялічэзнага зруху ў галіне набліжэньня апарату дыктатуры пролетарыяту да мас?

Ліквідацыя акруг мае аграмаднае політычнае значэньне, і яно павінна быць усьвядомлена ўсімі рабочымі, усімі колгасьнікамі, усёй бядняцка-серадняцкай масай вёскі, усімі нашымі кіруючымі кадрамі і спэцыялістымі. Політычнае значэньне ліквідацыі акруг вызначаецца яшчэ тым, што ўскладніўшыяся абставіны на вёсцы, запыты бурна растучага соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, неабходнасьць забесьпячэньня максымальна магчымых тэмпаў агульнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі патрабуюць карэннай перабудовы форм і мэтодаў работы на вёсцы.

Ліквідацыяй акруг мы адзначаем, што актыўнасьць і політычны ўзровень рабочых, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас надзвычайна ўзрос, і што наша апора на вёсцы ўзмацнілася. Далейшае існаваньне акруг тормозіла-б разгортваньне ініцыятывы самадзейнасьці мас і мобілізацыю яе актыўнасьці навакол выкананьня генэральнай лініі партыі на практыцы. Нарэшце політычнае значэньне ліквідацыі акруг выяўляецца яшчэ ў тым, што ліквідацыя дае нам магчымасьць узмацніць позыцыі пролетарыяту, нашай апоры і нашых саюзьнікаў на вёсцы і скончыць з апошнім, самым моцным прадстаўніком капіталістычнай клясы ў Савецкім Саюзе—кулацтвам.

Нашы партыйныя організацыі павінны разгарнуць шырокую растлумачальную работу навакол пытаньня аб ліквідацыі акруг, падрабязна растлумачыўшы політычнае і практычнае значэньне гэтага акту.

Разгортваючы падрыхтоўчую працу па ліквідацыі акруг, патрэбна сказаць,

што ўся работа па ліквідацыі акруг адбываецца ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы, і што мы будзем мець у розных формах супраціўленьні пры ажыцьцяўленьні нашых мерапрыемстваў па ліквідацыі акруг. Супраціўленьні могуць мець месца ў форме таго, каб скарыстаць ліквідацыю акруг дзеля дэзэртырства ад работы ў раёне і папасьць у Менск ці «на вучобу». Назіраецца шмат такіх фактаў супраціўленьня пры ўзмацненьні раёнаў з боку некаторых груп спэцыялістых, у форме нежаданьня ісьці працаваць у раён. Мы, мабыць, будзем мець жаданьне з боку бюрократычных элемэнтаў так «зацэнтралізаваць», што ад правоў акругі раёну нічога не застанецца, бюрократызм будзе імкнуцца скарыстаць павялічэньне і больш складаныя ўмовы работы цэнтральных установ і організацый для таго, каб сарваць сыстэматычнае і своячасовае кіраўніцтва месцамі.

Кулак і падкулачнікі, клясава варожыя элемэнты мястэчак паспрабуюць скарыстаць усе магчымасьці для таго, каб скомпромэтаваць усю рэформу, шляхам паклёпу на яе. Пры правядзеньні ўсяе гэтай працы мы будзем мець шэраг і другіх перашкод. Важнейшай задачай усіх організацый, у першую чаргу партыйных організацый,—мобілізаваць грамадзкую думку ўсіх працоўных, партыйна-савецкі і коопэрацыйны актыў і спэцыялістых для актыўнага ўдзелу ў правядзеньні гэтай рэформы і для адпору ўсім тым, хто будзе імкнуцца зрабіць супраціўленьне пры правядзеньні нашых мерапрыемстваў у галіне ліквідацыі акруг.

Партыйныя організацыі павінны выкрыць права-опортуністычную сутнасьць усіх спроб сарваць, затормозіць ажыцьцяўленьне на практыцы мерапрыемстваў па ўзмацненьню раёнаў, вясковых організацый, ліквідацыі акруг.

Ліквідацыя акруг прадурледжвае перакідваньне большай колькасьці працаўнікоў у раён і перастаноўку сіл унутры раёнаў. Нам патрэбна забясьпечыць, каб гэтыя перакідваньні ў раёнах і ўнутрыраённыя перастаноўкі сіл былі праведзены таксама хутка з адпушчанымі тормозамі. У сувязі з гэтым, перад усімі раённымі організацыямі стаіць задача мобілізацыі ўсяе раённай і вясковае парт. організацыі дапамагчы правядзеньню гэтай работы, даючы бязьлітасны адпор усім спробам саботажу ў перастаноўцы работнікаў, з якога-б боку гэта ні было. Павінны быць забясьпечаны самыя лепшыя таварыскія абставіны для ўсіх тых, хто едзе ў раён, і для ўсіх тых, хто паедзе на нізавую працу.

Перад раённымі парторганізацыямі стаіць таксама вялікая задача ў галіне ўзмацненьня сувязі з цэнтрам. Нашы цэнтральныя організацыі не адразу здолеюць так наладзіць свой апарат, каб адразу поўнасьцю забясьпечыць своячасовым кіраўніцтвам усе мясцовыя пытаньні (гэта справа вельмі цяжкая і патрабуе вялікай практыкі і спрактыкаваных людзей). І тут належыць цьвёрда ўсьвядоміць, што патрэбна дапамагаць цэнтральным установам наладзіць кіраўніцтва месцамі. Належыць патрабаваць кіраўніцтва з боку цэнтру, але будзе злачынным прыкрывацца недахопамі цэнтральнага апарату для таго, каб апраўдаць зрывы ў выкананьні чарговых задач асноўных кампаній агаворачкамі: «запыталі Менск, але ён да гэтага часу нічога не адказвае». Словам, мы гаворым аб тым, што нашы раённыя парторганізацыі павінны з свайго боку памагчы організаваць кіраўніцтва раёнамі, ня блытаць і даваць своячасова інформацыю. Мы павінны весьці рашучую барацьбу супроць дробнага апякунства над раёнамі з боку цэнтральных організацый, але патрэбна, каб усе раённыя організацыі ўсьвядомілі, што ад іх патрабуецца разгортваньне мясцовай ініцыятывы самадзейнасьці пры выкананьні ўсіх нашых задач у вёсцы.

Рэорганізаваны раён зможа выканаць свае задачы толькі ў тым выпадку, калі перабудуе сваю работу па ўсіх напрамках. У першую чаргу мы павінны завастрыць перад усімі раённымі організацыямі задачу разгортваньня самакрытыкі, без якой немагчыма сапраўдная мобілізацыя мас навакол задач соцыялістычнага будаўніцтва. Самакрытыка ў нашых вясковых організацыях стаіць на

надзвычайна нізкім узроўні. Слабое разгортваньне самакрытыкі ў вясковых организацыях патрэбна тлумачыць тымі шматлікімі права-опортуністычнымі скрыўленьнямі і «левымі» загібамі, якія мелі і часам цяпер яшчэ меюць месца ў нашых вясковых організацыях.

Толькі слабой самакрытыкай патрэбна тлумачыць тое, што да гэтага часу канчаткова ня зьнішчаны значныя астачы «левых» загібаў. Усе нашы вясковыя парторганізацыі павінны ажыцьцяўляць лёзунг: «За бальшавіцкую самакрытыку, ня гледзячы на асобы». Значэньне самакрытыкі значна ўзмацняецца ў сувязі з тым, што раён мае цяпер больш правоў, што ён географічна знаходзіцца далей ад цэнтру, чым ад акругі, і своечасовая ліквідацыя прарываў і гнайнікоў магчыма толькі пры разгортваньні самакрытыкі. Новы раён павінен разгарнуць работу ўсіх масавых організацый, павінен прыцягнуць масы да соцыялістычнага будаўніцтва лепш чым старыя раёны.

Праводзячы ліквідацыю акруг, узмацняючы раёны, цэнтральны апарат павінен заўжды памятаць, што мы ня маем ніякага права паслабляць тэмп выкананьня аграмаднейшых задач сёньняшняга дня, як правядзеньне ўборачнай кампаніі, падрыхтоўка і правядзеньне вясеньняй пасеўнай кампаніі, збор сельгаспадатку, падрыхтоўка да кампаніі лесанарыхтовак, далейшае разгортваньне колектывізацыі і рэалізацыя пазыкі «пяцігодка—у чатыры гады». Усякім дэмобілізацыйным настроям у галіне выкананьня нашых чарговых задач патрэбна даваць рашучы адпор.

Пастанова ЦК аб ліквідацыі акруг—гісторычная пастанова. Яна ставіць пад востры кут задачу ўзмацненьня пролетарскіх позыцый у вёсцы. Гэта пастанова дае нам магчымасьць пасіліць і палепшыць нашу барацьбу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, і «левымі» загібамі

100-процантнае скарыстаньне ўсіх новых магчымасьцяй узмацненьня раёну і вёскі, хутчэйшы паварот да раёну і вёскі—вось адна з нашых цэнтральных задач.

Танхілевіч

# Аб узмацненьні вясковых парторганізацый

Пытаньне аб узмацненьні вясковых парторганізацый за апошнія паўгода паўстае надзвычайна востра. Гэта зьвязана з тымі задачамі, што стаяць перад вясковымі ячэйкамі, з тымі вялікімі якаснымі зрухамі, якія мы маем у сельскай гаспадарцы, з магутным разгортваньнем колектывізацыі сельскае гаспадаркі. На сёньня асабліва злачынна чакаць «самацёку» у галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Дробная індывідуальная гаспадарка павінна ператварыцца ў гісторычна кароткія тэрміны ў буйную колектыўную гаспадарку.

Політыка ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі таксама высоўвае перад нашай вясковай парторганізацыяй зусім новыя патрабаваньні. На сёньня патрабуецца куды больш работы ў галіне мобілізацыі мас для ажыцьцяўленьня нашых задач у вёсцы, зараз патрабуецца больш дасканаласьці, упартасьці, сіл для таго, каб весьці барацьбу з кулацтвам, для таго, каб вырваць з-пад уплыву кулака тыя паасобныя групы сераднякоў, а іншы раз нават беднякоў, якія за ім часам ідуць.

Вясковы раён і ў нас, на Беларусі, ужо сёньня вельмі складаны і адказны вучастак буйнае колектыўнае гаспадаркі. За становішча, за разьвіцьцё колгасу наша вясковая парторганізацыя нясе куды большую «пэрсанальную» адказнасьць і перад партыяй у цэлым, перад рабочай клясай, колгасьнікамі і перад тымі бядняцка-серадняцкімі масамі, якія яшчэ ня ўступілі ў колгас.

Значэньне колгасу, асабліва цяпер, літаральна вырасла ў задачу эпохі. Мы на справе паказваем магчымасьць *соцыялістычнай перабудовы* дробнае аднаасабовай гаспадаркі ў буйную колектыўную гаспадарку.

Ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну ў чатыры гады залежыць і ад таго, наколькі нам удасца замацаваць існуючыя колгасы.

Трэба, каб усім стала зусім ясна, што ад пасьпяховасьці замацаваньня і якасьці работы існуючых колгасаў залежыць тэмп колектывізацыі.

Для таго, каб вырашыць гэтыя задачы, неабходна яшчэ большае замацаваньне сувязі партыі з масамі, трэба ўзьняць на яшчэ большую вышыню творчую актыўнасьць колгасьнікаў, як сапраўднай і моцнай апоры партыі і савецкай улады на вёсцы, трэба яшчэ больш узмацніць ролю і значэньне груп бednаты, трэба яшчэ больш узмацніць саюз з серадняком на аснове суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Перад вясковымі парторганізацыямі стаяць наступныя асноўныя задачы: узмацненьне колгасаў, шляхам правільнай пастаноўкі ўнутрыколгаснага будаўніцтва, бязьлітаснай барацьбы з усімі элемэнтамі недаацэнкі нашых дасягненьняў у колгасным будаўніцтве і канчатковай ліквідацыі ўсіх «астаткаў» перагібаў; разгортваньне вытворчай дапамогі індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам і ўпартай работы над уцягненьнем іх у колгасы; разгортваньне работы з батрацтвам і беднатою і ўзмацненьне саюзу з серадняком і далейшае ажыцьцяўленьне задач ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

Якія асноўныя недахопы мы маем у рабоце вясковых парторганізацый? Перш за ўсё трэба з усёй рэзкасьцю падкрэсьліць, што нашы вясковыя парторганізацыі ня могуць па сваёй малой колькасьці, з-за недастатковага ўзроўню разьвіцьця сваіх членаў, з-за слабасьці актыву, праводзіць самастойна без сыстэматычнай «сверхуочной» дапамогі асноўныя політычныя і гаспадарчыя задачы. Факт, што як толькі партыя ставіць пе-

рад вясковай парторганізацыяй якую-небудзь сур'ёзную задачу, няхай гэта правядзеньне перавыбараў саветаў, правядзеньне пасяўной кампаніі, хлебазагатовак, або організацыю колгасаў, нам прыходзіцца пачаць праводзіць гэтую работу з мобілізацыі работнікаў, упаўнаважаных, брыгадзіраў для правядзеньня гэтай работы.

Зьмест работы нашых вясковых парторганізацый таксама ня можа нас задаволіць. Тут патрэбна перш за ўсё адзначыць, што нашы вясковыя парторганізацыі зусім недастаткова займаюцца пытаньнямі ўнутрыколгаснага будаўніцтва, пытаньнямі правільнай організацыі працы ў колгасах. Мы таксама павінны з усёй катэгорычнасьцю адзначыць, што недастаткова ўдзяляецца ўвага пытаньням вытворчай дапамогі і аб'яднаньню ў прасьцейшыя формы сельска-гаспадарчай коопэрацыі бядняцка-серадняцкіх мас.

Такая вялізарнейшая і важнейшая работа, як забесьпячэньне 100-процантнага выкананьня засяўнога пляну ў шэрагу месц Беларусі праходзіць вельмі марудна, пры чым плян засеву тэхнічных культур выконваўся нездавальняюча.

Цяпер перад намі стаяць ня менш важныя задачы, як пасьпяховае правядзеньне ўборачнай кампаніі, загатоўчай кампаніі, спагнаньня сельска-гаспадарчага падатку, асеньняй засяўной кампаніі.

Усе гэтыя задачы павінны быць праведзены так, каб даць ня толькі тую або іншую колькасьць матар'яльных рэсурсаў, але і забясьпечыць далейшы рост колгаснага будаўніцтва.

Ці могуць вясковыя парторганізацыі пры сваім цяперашнім становішчы пасьпяхова справіцца з усёй гэтай работай? Зусім ясна, што ня могуць, калі мы не правядзем цэлага шэрагу мерапрыемстваў, якія ўзмацнялі-б нашы вясковыя парторганізацыі.

Слабасьць работы вясковых парторганізацый залежыць і ад таго, што малая колькасьць партыйцаў і комсамольцаў зусім ня мае магчымасьці цалкам і поўнасьцю забясьпечыць партыйнага кіраўніцтва ўсімі складанымі процэсамі соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і ўзросшай актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас, усімі процэсамі клясавай барацьбы ў вёсцы. Трэба адзначыць яшчэ нізкі культурны і тэорэтычны ўзровень значнай часткі вясковых парторганізацый; слабасьць і малая колькасьць партыйнага актыву пагаршае становішча.

Малая колькасьць вясковых парторганізацый знаходзіць свой адбітак ня толькі ў малой колькасьці комуністаў у раёне, але і ў зусім недастатковай колькасьці партыйных ячэек і малой партыйнай сеткі ў раёне. Большасьць колгасаў ня мае партыйных ячэек, а тыя матар'ялы, якія мы маем аб складзе колгасных ячэек, сьведчаць аб тым, што склад колгасных ячэек таксама ня зусім здавальняючы, паколькі ў колгасных ячэйках вельмі мала комуністаў, занятых непасрэдна на вытворчасьці. Нельга забясьпечыць сталага штодзённага партыйнага кіраўніцтва колгасам комуністамі, якія непасрэдна не працуюць у колгасе.

Адным з сур'ёзнейшых недахопаў ў рабоце вясковых парторганізацый зьяўляецца зусім недастатковая ўвага проблеме скалачваньня моцнага, даволі шырокага беспартыйнага актыву вакол парторганізацыі. Сьмешна думаць, што мы можам ажыцьцявіць справу соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, справу ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, рукамі толькі адных комуністаў і комсамольцаў. Наша партыя мае даволі значны атрад беспартыйнага актыву, асабліва колгасьнікаў, груп беднаты і г. д. Але, папершае, гэтых кадраў недастаткова, і, падругое, ніхто сур'ёзна не займаецца вырошчваньнем, выхоўваньнем гэтых кадраў, апрача таго, недастаткова ўвагі ўдзяляецца пытаньням вылучэньня беспартыйных актывістаў, падрыхтоўцы іх для большай работы, пасылцы ў ВНУ і ВТНУ і г. д. Работа з кадрамі, з беспартыйным актывам залежыць ад увагі асноўным масавым організацыям у вёсцы, як сельсаветам, колгасам і групам беднаты, комітэту ўзаемадапамогі, спажывецкай коопэрацыі,

комсамолу,—гэтым арганізацыям, якія зьяўляюцца *«прываднымі рамнямі»* ад партыі да мас. Мы недастаткова кіруем гэтымі арганізацыямі, і з гэтай прычыны наш актыў на вёсцы недастатковы.

Трэба таксама адзначыць яшчэ важнейшыя недахопы ў рабоце вясковых парторганізацый, напрыклад: шэраг пытаньняў недастаткова ўзьнімаецца на прынцыповую вышыню; мы маем шэраг фактаў прымірлівых адносін да праяў правага ўхілу на практыцы і да «левых» загібаў у паасобных арганізацыях; мы маем зусім недастатковае разгортваньне самакрытыкі. На барацьбу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, з «левымі» загібамі неабходна зьвярнуць яшчэ больш сур'ёзную ўвагу; гэтая барацьба павінна стаць больш конкрэтнай.

Гаворачы аб конкрэтных задачах па ўзмацненьні работы вясковых парторганізацый, трэба перш за ўсё падкрэсьліць, што сапраўднага ўзмацненьня нашых вясковых парторганізацый, або кажучы словамі тав. Кагановіча — *«утварэньня моцнай вясковай парторганізацыі»,* якая здольна ажыцьцяўляць задачы партыі на вёсцы, магчыма дасягнуць толькі цэлай сыстэмай мерапрыемстваў. Гэтая сыстэма мерапрыемстваў павінна складацца з дзьвюх частак: першая— узмацненьне вясковых арганізацый партыйцамі з фабрык гарадоў, узмацненьне кіраўніцтва і лепшага інструктаваньня, і другая— перабудова работы самых вясковых парторганізацый, каранное палепшаньне скарыстаньня тых сіл, якія ёсьць у вясковых парторганізацыях.

Пастанова ЦК УСЕКП(б) аб ліквідацыі акруг ёсьць сапраўднай вялікай праграмнай дапамогай вясковым парторганізацыям. Ліквідацыя акруг ператварае раёны ў асноўнае зьвяно ўсяе нашае сыстэмы кіруючых органаў у вёсцы. Раёны атрымліваюць усе магчымасьці для сапраўднага разгортваньня самадзейнасьці і ініцыятывы. Ліквідацыя акруг дасьць нам магчымасьць сапраўды ўзмацніць раёны работнікамі. Калі пасылка 25 тысяч у вёску мела вялізарнейшы ўплыў на палепшаньне работы вясковых партарганізацый, дык пасылка 100 тысяч чалавек па ўсім Савецкім Саюзе павінна даць яшчэ большыя вынікі. Ліквідацыя акруг дае магчымасьць палепшыць матар'яльнае становішча работнікаў раёну і наблізіць кіраўніцтва цэнтру раёнамі, і нарэшце цясьней зьвяжуцца цэнтральныя арганізацыі з масамі, з нізамі. Раёны атрымаюць больш кваліфікаваную дапамогу, больш кваліфікаванае кіраўніцтва.

Мы наўмысьля больш падрабязна спыніліся на станоўчых бакох ліквідацыі акруг, паколькі мы ўжо прыступілі да іх ліквідацыі.

Другая частка мерапрыемстваў па ўзмацненьні работы вясковых парторганізацый складаецца з цэлай сыстэмы мерапрыемстваў у галіне перабудовы работы вясковых парторганізацый.

Асноўным зьвяном у рабоце нашых вясковых парторганізацый павінен быць колгас, колгасная ячэйка, пытаньні ўтварэньня моцнай колгаснай ячэйкі, пытаньні арганізацыі работы ў колгаснай ячэйцы павінны быць цэнтральнымі пытаньнямі ў рабоце вясковых парторганізацый.

Мы ўжо вышэй гаварылі, што на сёньня масавае разгортваньне колектывізацыі залежыць ад таго, наколькі нам удасца замацаваць існуючыя колгасы. Бядняк, серадняк, якія яшчэ не ўвайшоў у колгас, прыглядаецца да нашых колгасаў; калі колгасы будуць прыкладам лепшай арганізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці, калі колгасы сапраўды дадуць палепшаньне становішча тых, хто ўвайшоў у іх, тады ў колгасы яны пойдуць шырокімі шарэнгамі. Нам важна дабіцца хутчэйшай рэалізацыі ўсяго станоўчага, што дае колектыўная гаспадарка ў параўнаньні з аднаасабовай гаспадаркай. Саўгасы, колгасы, саўгаская і колгасная ячэйка павінны быць асноўным зьвяном у рабоце вясковай парторганізацыі, бо ў саўгасе і колгасе мы маем магчымасьць выхоўваць на практычнай рабоце новых арганізатараў буйнае колектыўнае гаспадаркі, вытворцаў. Па-за саўгасамі і колгасамі наша вясковая парторганізацыя ня мае такой добрай магчымасьці вырасьціць новы магутны актыў арганізатараў, практыкаў, палітычных кіраўнікоў колгаснымі масамі, агітатараў, прапагандыстаў за колгасы,

організатараў новых колгасаў, кіраўнікоў самых саўгасаў і колгасаў.

Рашаючая проблема цяперашняга этапу—проблема кадраў для сэцыялістычнай сельскай гаспадаркі ў раёне—можа быць вырашана здавальняюча толькі ў саўгасах і колгасах, і толькі ў тым выпадку, калі мы ператворым саўгасы і колгасы ў школу вядзеньня гаспадаркі. Такая саўгаская і колгасная школа дасьць нам магчымасьць атрымаць дзесяткі тысяч добрых кіраўнікоў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Перад намі стаяць наступныя задачы: організаваць пры ўсіх колгасах партыйныя ячэйкі. У тым колгасе, дзе ёсьць тры комуністы, павінна быць організавана партыйная ячэйка; там, дзе ёсьць адзін або два комуністы і кандыдаты, павінна быць організавана кандыдацкая група; там, дзе ёсьць адзін комуніст, ён павінен быць організатарам кандыдацкай групы і ячэйкі. Тэмп вярбоўкі ў партыю ў колгасных ячэйках павінен быць значна ўзмоцнены, падвоены. У партыю трэба зваць у першую чаргу батракоў, беднякоў-колгасьнікаў, а таксама падтрымліваць імкненьне найбольш актыўных сераднякоў-колгасьнікаў быць ў шэрагах партыі; вядома, што індывідуальны адбор павінен быць захаваны ў поўнай меры.

Наступнай важнейшай часткай узмацненьня работы вясковай парторганізацыі павінна быць пастаноўка работы колгаснай ячэйкі. Колгасныя ячэйкі толькі ў тым выпадку апраўдаюць сваю назву і сваё назначэньне, калі яны сконцэнтруюць сваю ўвагу на пытаньні ўнутрыколгаснага будаўніцтва, на пытаньні комуністычнага выхаваньня колгасьніка. Колгасная ячэйка павінна мобілізаваць колгасьнікаў вакол пытаньняў ажыцьцяўленьня вытворчай програмы колгасаў, разгортваньня актыўнасьці мас, як вытворчых нарад, соцспаборніцтва, ударніцтва. Колгасная ячэйка павінна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на падвышэньне таварнасьці колгасаў, на выкананьне колгасамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

Трэба весьці барацьбу з рвацкімі кулацкімі настроямі ў колгасах—больш узяць і менш даць. Трэба дабіцца неабходных тэмпаў соцыялістычнага накапленьня ў колгасах.

Аднэй з важнейшых задач колгаснай ячэйкі зьяўляецца ўтварэньне з колгасьнікаў сталага вытворчага актыву на аснове ўзмацненьня колгасу, як буйнае колектыўнае гаспадаркі соцыялістычнага тыпу. Пытаньні аплаты працы, узьняцьця дысцыпліны павінны заняць сваё месца ў рабоце колгаснай ячэйкі. Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на пытаньні культурнага абслугоўваньня колгасьнікаў.

Для таго, каб забясьпечыць правільную пастаноўку свае работы, колгасная ячэйка павінна ўсю сваю работу праводзіць праз масы з масай. Для гэтага трэба навучыцца кіраваць масай, стаяць на чале мас, не плясьціся ў хвасьце, а весьці перад. Колгасныя ячэйкі павінны не адміністраваць, не падмяняць праўленьня савету колгасу, вытворчых нарад, агульных сходаў колгасьнікаў, а ўсю сваю работу праводзіць праз агульныя сходы, праз пасяджэньні праўленьня або савету колгасу і г. д. Толькі пры гэтай ўмове колгасныя ячэйкі мобілізуюць масы вакол генэральнай лініі партыі.

Аднэй з асноўных задач колгаснай ячэйкі павінна быць правядзеньне прынцыпу, што комуніст, комсамолец—колгасьнікі павінны быць прыкладнымі колгасьнікамі ва ўсіх адносінах. Трэба дабіцца, каб комуністы, комсамольцы ня толькі добра кіравалі, але добра і прыкладна працавалі на зямлі, на скотным двары, кіравалі трактарам.

Важнейшым элемэнтам правільнай пастаноўка работы зьяўляецца забясьпечаньне самакрытыкі ў колгасе. Удзел мас у будаўніцтве колгасу зьяўляецца важнейшым мерапрыемствам у гэтай галіне.

Важнейшай задачай ячэек зьяўляецца організацыя правільнага кіраўніцтва батрацка-бядняцкімі групамі ў колгасах, падвышэньне актыўнасьці батрацтва і беднаты ў колгасах, забясьпечаньне дастатковай ўдзельнай вагі ў кіраўніцтве колгасам. Трэба рашуча весьці барацьбу

супроць усіх імкненьняў адхіленьня серадняка ад кіраўніцтва колгасам, усіх імкненьняў лічыць серадняка колгасьнікам «ніжэйшага разраду».

Адным з важнейшых мерапрыемстваў ў галіне перабудовы і ўзмацненьня работы вясковых парторганізацый зьяўляецца правядзеньне пэлага раду мер, якія-б забясьпечвалі рост узмацненьня беспартыйнага актыву і яго згуртаваньня вакол партыі для актыўнага ўдзелу ў правядзеньні генэральнай лініі партыі, усіх мерапрыемстваў савецкай улады.

Для таго, каб гэтага дабіцца, трэба перш за ўсё дабіцца разгортваньня работы сельсаветаў, колгаснай і коопэрацыйнай сыстэмы і г. д., г. зн., усіх масавых організацый на вёсцы.

Вылучэньне, вырошчваньне, выхоўваньне актыву, кадраў магчыма толькі пры тэй умове, калі ўсе масавыя організацыі сапраўды разгорнуць сваю работу і будуць яе праводзіць не пақанцэлярскі, а пры актыўным удзеле мас. Напрыклад, разгортваньне работы сельсаветаў па социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, распрацоўка, абгаварэньне сельсаветам усіх неабходных мерапрыемстваў для выкананьня дырэктыў савецкіх органаў, прыцягненьне ўсіх членаў сельсаветаў, сэкцый, комісій і інш. да выкананьня гэтых дырэктыў—усё гэта—добрая школа для вырошчваньня актыву; возьмем іншы прыклад: савет колгасу або вытворчая нарада, гэтыя два органы, калі будуць працаваць, могуць быць добрай школай для колгасьнікаў.

Вырашэньне проблемы выхоўваньня беспартыйнага актыву абавязвае нас зьвярнуць асаблівую ўвагу на пытаньні вылучэньня беспартыйных на адказную работу, на пытаньні пасылкі іх на вучобу. Для комуністычнага выхаваньня беспартыйнага актыву трэба праводзіць адчыненыя сходы ячэек, організоўваць гурткі, комплектаваць нашы школы, курсы і беспартыйнымі актывістамі.

Яшчэ адно важнейшае пытаньне, на якім неабходна завастрыць ўвагу,—гэта пытаньне расстаноўкі партыйных сіл у вясковых партыйных організацыях. Трэба дабіцца правільнага скарыстаньня партыйных сіл. Прыкладна, у буйным колгасе, у якім ёсьць цэлы шэраг паасобных галін і вучасткаў работы, неабходна, каб кожны вучастак быў забясьпечан партыйнымі таварышамі.

## Ад рэдакцыі.

У артыкуле т. Танхілевіча закрануты цэлы шэраг пытаньняў чарговай работы вясковых партыйных організацыі. Рэдакцыя просіць практычных работнікаў месц дасылаць у часопіс артыкулы па гэтых пытаньнях.

# ПРАКТЫКА МЕСЦ

## Аб організацыі батрацтва і беднаты

*(Касьцюковіцкі раён, Магілеўскай акругі)*

Шмат дырэктыў атрымана райкомам і ячэйкамі, а праца з батрацтвам і беднатой амаль што не разгорнута. Раён налічвае 44 колгасы, складаецца з 26 сельсаветаў. Па тэрыторыі і колькасьці насельніцтва гэта найвялікшы раён у акрузе. Насельніцтва налічваецца 72 тысячы, а груп беднаты пры большасьці сельсаветаў яшчэ ня існуе, пры 12 сельсаветах група організавана, а пры 14—няма. Пры 6 колгасах ёсьць, а пры 38—няма. Пры 3 КСУ—ёсьць, а пры 23—няма. З ліку організаваных груп большасьць яшчэ не разгарнула сваю працу. Прычынамі такой слабасьці работы зьяўляецца: папершае, недаацэнка значэньня організацыі беднаты, падругое, неразуменьне задач групы беднаты; патрэцяе, расплывучасьць і неканкрэтнасьць тых пытаньняў, якія ставяцца на сходах беднаты, і не малаважнай прычынай слабасьці працы з беднатой зьяўляецца і тое, што самі раённыя і акруговыя комітэты і ўстановы, як належыць, не ўзяліся за практычную працу, а ўсё яшчэ пішуць абежнікі і то не заўсёды конкрэтныя.

Партыйныя організацыі, у якіх становішча працы з беднатой дрэннае, павінны зьнішчыць у сваіх шэрагах недаацэнку бядняцка-батрацкіх груп. «Недаацэнка і пасыўнасьць у працы сярод вясковай беднаты ёсьць адна з самых шкодных праяў, правага ўхілу на практыцы, адбіваючага даўленьне дробнабуржуазнай стыхіі і ідэолёгіі кулацтва на некаторыя праслойкі ў партыі. Таму з усімі імкненьнямі змазаваньня гэтай працы ЦК патрабуе весьці ўпартую барацьбу, як з праяўленьнем правага опортунізму, асабліва небясьпечнага ў цяперашніх умовах»—так сказана ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб організацыі беднаты.

Мы ні на хвіліну не павінны забываць, што клясавы вораг вядзе работу супроць нас, ён імкнецца паслабіць саюз пролетарыяту з бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі.

Кулацтва, карыстаючыся тым, што некаторыя комуністы і нават ячэйкі, у выніку выпраўленьня сваіх памылак, перагнулі ў другі бок, у бок замяшаньня і лібэральнічаньня і дужа паслабілі сваю працу ў галіне колгаснага і савецкага будаўніцтва, а таксама паслабілі працу з беднатой, павяло сваю актыўную працу супроць колгаснага руху, супроць савецкіх законаў.

Кулацтва, нэпманы, падкулачнікі, сэктанты і царкоўнікі, карыстаючыся цемнатой таго ці іншага бедняка, цемнатой жанчын, праводзяць сваю работу і організуюць «баб'і бунты». Толькі за 2 тыднёвы тэрмін нашага прабываньня ў Брацькавіцкім сельсавеце прышлося шмат пабачыць на свае вочы дзейнасьць клясавага ворага. Клясавы вораг распаўсюджвае хлусьню, што XVI зьезд партыі адменіць колектывізацыю, што колгасьнікаў будуць пляміць, і што вось хутка будзе вайна, савецкую ўладу скінуць, а колгасьнікаў ў Сібір сашлюць, замест кулакоў. Ён выступае супроць дапамогі беднаце, «бо з-за яе і нас больш падаткамі абкладваюць». 21 чэрвеня клясавы вораг рукамі бедняка падпальвае сьвіран, дзе знаходзілася каля 900 пудоў колгаснага хлеба. З абрэзу ў апошніх чыслах траўня м-ца бядняк, падкуплены кулакамі, забівае старшыню сельска-гаспадарчай арцелі.

Кулакі пачынаюць пасвойму скарыстоўваць наш лёзунг апоры на беднату і маскуюць сваю дзейнасьць. З царкоўнага савету Брацкавіцкай царквы багатыя вышлі і абралі на сваё месца бедна-

ту, каб іх рукамі змагацца супроць савецкіх законаў і соцыялістычнага будаўніцтва. Адным словам, царква стараецца «абяднячваць» свой апарат, царкоўныя саветы складаюцца ня толькі з кулакоў і чорнай сотні, туды ўцягваецца бедната. Клясавы вораг імкнецца нацкоўваць адзінаначальнікаў на колгасьнікаў. Шыпяць пра тое, што ў колгасах жыцьцё паганае, што ў арцелях толькі гультаі, што праз іх і сялянам жыцьця няма, што бяз «моцнага» гаспадара ўсё пойдзе прахам і г. д. Ёсьць імкненьні з боку кулакоў і падкулачнікаў паслабіць і скомпромэтаваць колгасны рух з сярэдзіны. Прыняцьце статуту сельска-гаспадарчай арцелі хочуць лічыць толькі на паперы, настройваючы сяброў арцелі супроць абагульваньня маёмасьці і супроць прыёму ў арцелі новых бядняцкіх гаспадарак. Асабліва яны зрываюць жывёлагадоўлю, штурхаючы сялян на забой жывёлы, яны змагаюцца супроць пашырэньня пасеўнай плошчы і контрактацыі. Вось чаму зьяўляецца праявай опортунізму слабая праца з беднатой, з слабой работы з беднатой вынікае цэлы шэраг перагібаў, якія былі зроблены ў справе колектывізацыі. Адсюль і слабасьць арцелі, адсюль слабы ўзрост некаторых ячэек КП(б)Б на вёсцы, адсюль вынікае магчымасьць кулаку гаварыць вуснамі асобных беднякоў і пашырэньне кулацкай агітацыі.

Глыбока памыляюцца тыя таварышы, якія гавораць, што кулацтва няма, і што пытаньне—«хто каго» зьнята. Трэба разгарнуць грамадзкую вытворчую і культурна-бытавую работу з беднатой і праз організацыі беднаты яшчэ больш узмацніць саюз з серадняком, устанавіць добрыя адносіны паміж колгасамі і індывідуальным сэктарам сельскае гаспадаркі. Правыя опортуністы, об'ектыўна зьяўляючыся агентамі кулака ў нашай партыі, не даацэньваюць самастойную організацыю беднаты наогул, у арцелях у прыватнасьці. Паміж іншым, клясаваму ворагу карысна мець справу з неорганізаванай беднатой. Кулак, падкулачнік і да іх падобныя добра разумеюць, што адсутнасьць групы беднаты дасьць яму магчымасьць хутчэй прабрацца ў сельсавет, колгас, коопэрацыю і інш. установы, будзе садзейнічаць яго ўплыву на серадняка і створыць больш цьвёрды грунт для яго падрыўной працы. Вось чаму людзі, якія не займаюцца разгортваньнем працы з беднатой, організацыяй груп беднаты, зьяўляюцца правымі ўхілістамі на практыцы. Таксама іх колегамі і дапаможнікамі зьяўляюцца левыя загібшчыкі і антысераднякія элемэнты, бо іх працу скарыстаў кулак у поўнай меры і зараз яшчэ спэкулюе на гэтым, компромэтуючы колгасны рух, і імкнецца пашырыць хістаньне серадняка. Змагаючыся з недаацэнкай працы з батрацтвам і беднатой у сваіх шэрагах, Касьцюковіцкі райком і некаторыя ячэйкі разгарнулі працу па організацыі груп беднаты пры ўсіх арцелях, КСУ, сельсаветах і коопэрацыйных організацыях. Зьвернута ўвага на вылучэньне моцных кіраўнікоў. Складаюцца пляны працы і пачынаюць больш стала і сыстэматычна працаваць. Вось, напрыклад, плян працы групы батрацтва і беднаты пры сельска-гаспадарчай арцелі «Колектывіст», Юрацкавіцкага сельсавету.

1) Абгаварыць і намеціць мерапрыемствы па рэалізацыі прыкладнага статуту сельска-гаспадарчай арцелі, дасягнуўшы таго, каб кожны сябра арцелі добра яго зразумеў.

2) Дабіцца хутчэйшай ацэнкі маемасьці кожнага сябра арцелі і ўнясеньня ўступных узносаў, вызначэньня паю, складаньня непадзельных фондаў і залічэньня конфіскаванай маемасьці кулакоў у непадзельны фонд.

3)Абгаварыць пытаньне аб выняцьці з асабістага карыстаньня маемасьці, якая падлягае абагульненьню.

4) Дабіцца хутчэйшага адводу папару і сенажаці.

5) На падставе шырокай і жорсткай самакрытыкі падвесьці і абгаварыць вынікі працы па выкананьню веснавога пасеўнага пляну, выкрыць усе недахопы і намеціць шляхі іх зьнішчэньня ў час касьбы, уборачнай кампаніі і азімай пасяўной кампаніі.

6) Абгаварыць рабочыя пляны ўзорваньня пару, касьбы, уборкі зернавых хлябоў, тэхнічных культур, карняплодаў, малацьбы і асеньняга севу.

7) Паставіць пытаньне аб палепшаньні коннага парку, гадоўлі жывёлы ў арцелі.

8) Прапрацаваць пытаньне аб дапамозе індывідуальным бядняцкім гаспадаркам з боку арцелі ў час уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі.

9) Правесьці соцыялітычнае спаборніцтва з другім колгасам, а таксама разгарнуць унутры колгасу паміж асобнымі брыгадамі і сябрамі арцелі, на прадмет паляпшэньня пару, хутчэйшай уборкі сенажаці, хутчэйшай уборкі ўраджаю, хуткасьці і якасьці малацьбы, лепшую арганізацыю працы і большую ўдарнасьць. Для гэтага вылучыць фонд прэм'яваньня. Дзе можна, перайсьці на зьдзельную работу.

10) Дабіцца перад праўленьнем вылучэньня брыгады для праверкі арганізацыі і падліку працы, хто і колькі выпрацаваў, намячэньня спосабаў разьмеркаваньня ўраджаю і далейшай і лепшай арганізацыі работ .

11) Паставіць пытаньне аб пашырэньні прамысловай дзейнасьці арцелі (млына, сукнавалкі, кузьні і інш.).

12) Паставіць пытаньне аб страхаваньні пасеваў, жывёлы, інвэнтару, будынкаў і ўсяе маемасьці.

13) Правесьці і растлумачыць, што сябры арцелі атрымліваюць не зарплату, не паёк на едакоў, а плату за працу, па яе колькасьці і якасьці, выходзячы з дабрабыту арцелі, і што 5 проц. ад валавага даходу арцелі, будзе разьмяркоўвацца па паёх.

14) Абгаварыць пытаньне аб мэтазгоднасьці водпуску прадуктаў і хлеба ніжэй цьвёрдых цэн не працуючым сябром арцелі, а таксама пытаньне аб форме аплаты працы (натурай і грашыма).

15) Паставіць пытаньне аб правядзеньні вярбоўкі батракоў і батрачак у сябры арцелі, стварыўшы ім адпаведныя ўмовы.

## Пытаньні культуры і быту

1) Абгаварыць пытаньне аб арганізацыі курсаў на зімовы час па ўзьняцьцю агульнай адукацыі і сельска-гаспадарчых ведаў сяброў арцелі.

2) Паставіць пытаньне аб агульным ахопе дзяцей беднаты школай і матар'яльнай дапамозе ім.

3) Паставіць пытаньне аб тэрміне аслабаненьня ад працы цяжарных жанчын, палёгках жанчынам і падлеткам і аб дапамозе непрацздольным сябром арцелі і шмат-сямейным.

4) Вылучыць батракоў і беднату на кіруючую працу, абгаварваючы кандыдатуры ўсіх вылучэнцаў папярэдне на групах беднаты.

## Групы беднаты пры арцелях патрэбны і тым больш пры ніжэйшых формах коопэраваньня

Памылкова думаць, што пасьля ўступленьня ў колгас бедняка і батрака паміж імі і серадняком сьціраюцца ўсе грані, адразу зьмяняецца клясавая ідэолёгія, і што ўся маса колгасьнікаў уяўляе адну чырвоную пляму. Праўда, няправільна тлумачыць няроўнасьць у колгасах, галоўным чынам, тым, што ў колгасьнікаў застаецца прыватная маемасьць.

Ёсьць частка арцеляй, не афармленая паводле статуту. Уступныя ўзносы ня вызначаны. Непадзельныя фонды ня складзены. Пай ня ўнесены. Ацэнка маемасьці ня зроблена. Падлягаючая абагульваньню маемасьць не абагулена. Імкнуцца пад відам агародаў завесьці вялікія гаспадаркі. Організацыя працы і аплаты яе яшчэ яскрава ня вызначалася. Шмат хто яшчэ стаіць аднэй нагой у арцелі, а другой па-за арцельлю. Нападкі кулака, падрыўная работа кулака як унутры, так і звонку працягваецца. У напрамку ўзмацненьня існуючых арцеляй і іх пашырэньня прадбачыцца вялізная праца. Практыка паказвае, што арцель бяз моцнага батрацка-бядняцкага асяродзьдзя мае больш усяго недахопаў у сваёй працы і менш устойліва ў клясавых адносінах. Напрыклад, у арцелі «Сталіна» каровы не абагулены, а пастуха аплачвае ўся арцель і хто ня мае кароў. Пазаводзілі вялікія гароды. З другіх вёсак ня хочуць нікога прымаць да сябе. І наадварот, дзе працуюць групы беднаты, там і арцель мацней, і праца лепш організавана, і за сябе могуць

лепш пастаяць, і ў партыю ёсьць імкненьне, і клясавы прынцып вытрыманы. Напрыклад, у арцелі «Колектывіст» 4 бедгнякі падалі заяву ў партыю. Жывёлу абагульваюць. Пры разьмеркаваньні працы прытрымліваюцца прынцыпу даць больш працы тым гаспадаркам, дзе больш едакоў, і бядняцкім гаспадаркам, ня маючым свае ўласнасьці. Ваколічныя сяляне ўжо дзейкаюць аб уступленьні ў арцель.

Вызваленьне серадняка ад дробнатаварнай ідэолёгіі будзе ісьці тым больш пасьпяхова, чым мацней будуць зорганізаваны батрацка-бядняцкія групы ў колгасах, чым большы ўдзел будуць прымаць у гаспадарчым жыцьці колгасу бядняцкія групы. Ячэйкі павінны арганізоўваць беднату, узьнімаць аўторытэт колгасу, даючы адпор рвацкім настроям. Пытаньне аб саюзе батрацтва і беднаты з серадняком унутры колгасу зьяўляецца асноўным для данага пэрыоду. Організаваная бедната і батрацтва ні ў якім разе не павінны адхіляць серадняка ад кіраваньня колгасам. Саюз беднаты з серадняком адзначае сумесную працу ня толькі ў полі, але і ў кіраўніцтве колгасам і на адміністрацыйна-гаспадарчых пасадах. Такім чынам перад батрацка-бядняцкімі групамі ў колгасах стаяць важныя задачы. Яны павінны вынесьці ўсю цяжкасьць працы па правядзеньню ў жыцьцё статуту арцелі, яны павінны зьяўляцца ініцыятарамі соцыялістычных мэтадаў працы ў колгасах (соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва). Яны павінны весьці барацьбу за гаспадарчае ўзмацненьне колгасаў, зьнішчаючы дробна-таварную ідэолёгію серадняка і ўзмацняючы саюз бедняка з серадняком. Яны павінны падрыхтоўваць новыя кадры для паступленьня ў партыю. Усё гэта знайшло свой адбітак у пляне працы, які мы падалі раней.

Да вылучэньня кіраўнікоў груп падыходзяць яшчэ ня зусім уважліва. Вылучаюцца слабыя таварышы. Вылучаных не інструктуюць і не дапамагаюць ім. Партыйныя і комсамольскія ячэйкі для кіраўніцтва груп павінны вылучаць моцных комуністых і комсамольцаў.

## Аб ажыўленьні дзейнасьці і нагрузцы сяброў груп беднаты

У гэтым напрамку мала што зроблена. Цэнтр увагі ўва ўсёй працы вясковых ячэек павінен быць перанесены на групы беднаты і кіраўніцтва іх працай. І гэта ня будзе памылкова. Колькасны і якасны ўзрост партыйнай організацыі на вёсцы будзе залежаць ад працы сярод беднаты. Як толькі распачала сваю працу група беднаты пры арцелі «Колектывіст», 4 бедгнякі падалі заяву ў партыю. Новы прыліў у колгасы будзе ў большай частцы залежаць ад працы сярод беднаты не колгаснай і груп беднаты ў колгасах. Загібы і скрыўленьні партыйнай лініі ў галіне колектывізацыі і ігнараваньня прынцыпу дабраахвотнасьці часьцей за ўсё сустракаліся там, дзе не вялася праца па організацыі беднаты і батрацтва Тут шырэй, чым дзе-небудзь разгортваў працу кулак, тут мацней чым дзе-небудзь пачынаў весьці сваю працу наш вораг. Вось чаму недаацэнка працы сярод батрацтва і беднаты і нядбайныя да яе адносіны ЦК УсеКП(б) лічыць як адну з самых шкодных праяў правага ўхілу на практыцы. Усякую грамадзкую працу, усякую грамадзка-політычную кампанію мы павінны праводзіць, абапіраючыся на групы беднаты і беднату ўсяе вёскі, організуючы іх для гэтай працы. Але гэта не заўсёды праводзіцца, напрыклад: прыехалі ў Брацькавіцкі сельсавет прадстаўнік РВК і прадстаўнік Акр. Колгассаюзу праводзіць контрактацыю. Склікалі настаўнікаў, прысутнічалі 2 комуністы, некалькі сяброў сельсавету, нагаварылі ім пра інструкцыі, прыстрашылі і прапанавалі прыступіць да работы па кожнаму двару ўасобку, ня склікаючы ніякіх сходаў. Сам інструктар Акр. Колгассаюзу зарэгістраваў командыроўку і паехаў далей. Прадстаўнік РВК і настаўнікі пачалі хадзіць па дварох, але контрактацыя ішла кепска. Чаму? Бо грамадзкай думкі ня было створана. Пра беднату забыліся, лічаць непатрэбным траціць часу склікаць сходы беднаты і слухаць ад яе нараканьні. А вось другі прыклад: у в. Блудзімля склікалі сход беднаты, а на гэты сход прышла большасьць сялянства, за-

контрактаваліся на ўсе 100%. Другі прыклад—гэта ігнараваньне групы беднаты пры выбарах праўленьня колгасу імя Сталіна з боку старшыні Райколгассаюзу, які абіраў праўленьне без папярэдняга абгаварэньня на групе беднаты. Трэба ігнараваньню з боку прадстаўнікоў вышэйшых установаў працы з беднатой пакласьці канец. Не павінна быць ніводнага выезду з акругі і з Менску на вёску прадстаўнікоў партыі савецкіх і коопэрацыйных установаў, каб яны ня прыцягвалі да свае працы беднату. Змагаючыся за ўзмацненьне вясковай апоры партыі, мы павінны змагацца ў першую чаргу за групы беднаты, ператвараючы гэту цэнтральную і рашаючую арганізацыю беднаты ў інстытут масавай працы сярод усяе беднаты і батрацтва.

Толькі пры такой пастаноўцы беднага і батрацтва будуць выконваць тую ролю ў бядняцка-серадняцкім блёку, аб якой гаворыць сьнежаньская пастанова ЦК УсеКП(б) і пастановы ЦК КП(б)Б.

Брыгада сьвярдлоўцаў { *Галодка*, *Казачонак*, *Белякова* }

# ПРОПАГАНДА МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ

Сянкевіч

## Чарговыя задачы па пропагандзе марксызму-ленінізму [1])

XVI зьезд нашае партыі па пытаньню падвышэньня тэорэтычнага ўзроўню членаў партыі, гаворачы аб унутрыпартыйнай дэмократыі, аб социяльным і іншым складзе членаў партыі, адзначыў наступнае:

«Аднак ідэёва-політычны ўзровень значнае часткі партыйных кадраў усё яшчэ недастатковы, аб чым паказалі шматлікія факты антысераднякіх перагібаў. Задача ўзмацненьня і падрыхтоўкі партыйных кадраў, асабліва ў вёсцы стаіць ва ўсёй вастраце...» (З рэзолюцыі XVI партыйнага зьезду).

Адначасова мы павінны сказаць, што партыя, бязумоўна, дабілася значнага ўзьняцьця тэорэтычнага ўзроўню асноўных мас сваіх членаў. Аб гэтым сьведчыць тое, што партыя за мінулы пэрыод з посьпехам адбівала атакі на генэральную лінію і правых і левых, партыя ўшчэнт разьбіла контррэволюцыйны трацкізм; у нацыянальных рэспубліках, у прыватнасьці ў БССР, партыя дала рашучы адпор вылазкам нацыоналістычных і шовіністычных элемэнтаў, партыя здолела мобілізаваць партыйныя і пролетарскія масы навакол нашага социялістычнага будаўніцтва. Чыстка радоў нашае партыі, практыка правядзеньня колектывізацыі паказалі, што сярод радавых членаў партыі, асабліва вясковых і значнай часткі нашых кіруючых кадраў, мы маем яшчэ неразуменьне асноў марксыцка-ленінскага вучэньня. Ня чым іншым, як няведаньнем асноў марксызму-ленінізму, няведаньнем генэральнай лініі партыі можна тлумачыць тыя перагібы, якія мелі месца пры правядзеньні колектывізацыі. Не сакрэт, што сярод часткі таварышоў колектывізацыя праводзілася пад лёзунгам «лепш перагнуць, чым недагнуць», абы не папасьці ў правы ўхіл. Мы добра ведаем, што пасьля папярэджаньня ЦК, пасьля артыкулу т. Сталіна гэтыя-ж левыя загібшчыкі альбо апусьцілі рукі, альбо, як кажуць, шарахнуліся ўправа. Гэта кажа аб тым, што гэтыя таварышы ня былі клясава ўзброены, ня былі ўзброены ленінскай тэорыяй. І таму больш паглыбленае вывучэньне ўсёй партыйнай масай і асабліва партактывам асноў марксызму-ленінізму, асноў ленінскай навукі зьяўляюцца нашай першачарговай задачай.

Сёньня, калі мы ўступілі ў этап соц. рэконструкцыі, яшчэ больш яскрава выпукляецца значэньне лёзунгу, што без рэволюцыйнай тэорыі ня можа быць рэволюцыйнай практыкі і наадварот. І тут набывае асаблівае значэньне ўвязка рэволюцыйнай тэорыі з нашай штодзённай практыкай, з нашым штодзённым вырашэньнем практычных задач социялістычнага будаўніцтва. Мы павінны констатаваць усе-такі, што, пачынаючы ад нашага комвузу да ніжэйшага зьвяна партыйнай асьветы, мы назіраем гэты адрыў вучобы, адрыў тэорыі ад практыкі. Калі мы возьмем у комвузе, саўпартшколе праходжаньне такіх дысцыплін, як ленінізм, як гісторыя партыі, то яны ў значнай меры выкладаюцца і праходзяцца адарвана ад жыцьця, схолястычна.

Аб тым, як мы павінны выхоўваць нашы партыйныя кадры, Ленін казаў наступнае:

---

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца скарочанай прамовай т. Сянкевіча на Ўсебеларускай нарадзе па партасьвеце (Рэд. „П-ка").

«Ніколі масы не навучацца весьці політычную барацьбу, покуль мы не дапаможам выхаваць кіраўнікоў гэтае барацьбы з інтэлігентных рабочых і інтэлігентаў. Выхоўвацца такія кіраўнікі могуць выключна на сыстэме бягучай ацэнкі ўсіх бакоў нашага політычнага жыцьця, спроб протэсту і барацьбы розных клясаў і па розных повадах».

Вось увязаць тэорэтычную вучобу з ацэнкай усіх зьявішчаў клясавай барацьбы як унутры нашае савецкае краіны, так і зьявішчаў клясавай барацьбы, якія мы назіраем у капіталістычных краінах, зьяўляецца аднэй з важнейшых задач.

Мы павінны нашы школы і ўсю партыйную сетку пабудаваць так, каб школы сапраўды сталі адным з асяродкаў у той барацьбе, якую партыя вядзе супроць адхіленьняў ад ленінскай лініі. Школа павінна стаць асноўным памочнікам ячэйкі па організацыі мас навакол бягучых політычных і гаспадарчых задач партыі, павінна граць ролю баявога цэнтру. Нам трэба са ўсёй рашучасьцю констатаваць, як гэта констатаваў на ўсесаюзнай партнарадзе адзін з работнікаў Украіны, здаецца тав. Кузьменка, які сказаў, што ён ня ведае прыкладаў, каб партыйная школа ці адна з установ у партыйнай сетцы зьяўлялася застрэльшчыкам тае барацьбы супроць правага ўхілу і супроць левых загібаў, якую партыя праводзіла за гэты пэрыод—гэта, папершае.

Я думаю, што мы таксама ня маем многа такіх прыкладаў у нас, у Беларусі. Па-другое, мы павінны, прымаючы пад увагу новы этап рэконструкцыйнага пэрыоду, які перажывае наша краіна, так перабудаваць усю нашу вучобу, каб уся партыйная сетка ў большай меры была зьвернута тварам да вытворчасьці, да сёньняшняй рачаісьнасьці.

Вось тыя дзьве задачы, якія стаяць перад намі. Калі мы возьмем першую задачу, тую задачу, аб якой гаварыў тав. Ленін, як трэба выхоўваць нашыя парткадры, асабліва партыйны актыў, то тут мы павінны інакш падыйсьці да пытаньня па вывучэньню ленінізму і гісторыі партыі.

Напрыклад, калі мы вывучаем клясавыя суадносіны ў нашай краіне, у прыватнасьці суадносіны паміж пролетарыятам і сялянствам, дык сёньня ленінскі лёзунг аб захаваньні саюзу пролетарыяту з асноўнымі масамі сялянства павінен быць пастаўлены ў сьвятле сёньняшніх клясавых суадносін, у сьвятле тых зрухаў, якія мы маем на падставе нашых посьпехаў і ў галіне індустрыялізацыі, ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Калі мы сёньня, на падставе суцэльнай колектывізацыі, паставілі задачу ліквідацыі кулацтва як клясы, трыадзіную ленінскую формулу, якая была правільнай, формулу, якая гаворыць аб барацьбе з кулаком у саюзе з серадняком пры апоры на беднату, ужо гэту трыадзіную формулу мэханічна пераносіць на сёньняшні этап нашага будаўніцтва было-б не марксысцкай, ня ленінскай пастаноўкай. І таму пастанова XVI зьезду нашай партыі гаворыць аб тым, што ў нас сёньня гэтая формула відазьмяняецца ў напрамку таго, што ў важнейшых зернавых раёнах моцнай апорай савецкай улады зьяўляецца колгасьнік.

Калі мы, напрыклд, вывучаем нацыянальнае пытаньне ў яго ленінскай пастаноўцы, гэтае вывучэньне павінна быць увязана з барацьбой за генэральную лінію партыі ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, якую мы праводзім сёньня.

Другі прыклад. Пры вывучэньні, напрыклад гісторыі Захаду ў нас мала увагі і часу ўдзяляецца сёньняшнім падзеям, мала ўдзеляецца ўвагі тэй складанай клясавай барацьбе, якая ідзе на Захадзе і ў колёніяльных краінах. У нашых вузах, комвузах больш часу траціцца на вывучэньне старасьветчыны, сярэднявечча. Мы спыніліся больш-менш на францускай рэволюцыі і мала аддаем часу апошняму пэрыоду—пэрыоду Комінтэрну.

Тут мы павінны перабудавацца. Пытаньне клясавай барацьбы ў капіталістычных краінах, ацэнка клясавай барацьбы, вывучэньне сёньняшняй расстаноўкі клясавых сіл, якая назіраецца ў капіталістычных краінах, у колёніяльных краінах—усім гэтым пытаньням павінна

быць адведзена асноўнае месца ў нашых програмах і ў нашай вучобе.

Наконт іншых задач аб павароце нашай вучобы тварам да вытворчасьці, да рэконструкцыйных задач у нашай соцыялістычнай гаспадарцы, мы маем дырэктыву ЦК ад 12/VII-29 г., якая гаворыць, што ня менш аднэй трэцяй часу ў школах і гурткох сеткі партасьветы павінна быць застаўлена ў рэзэрве для пастаноўкі бягучых пытаньняў політычнай, гаспадарчай і культурнай работы.

Я думаю, што ў дакладзе тав. Канакоціна і ў спрэчках мы будзем бачыць, паколькі і як нашай партсеткай выконвалася гэта дырэктыва. Гэта асноўнае, паколькі ўкараненьне пытаньняў сучаснасьці, пытаньняў бягучай політычнай, гаспадарчай і культурнай работы ў нашу вучобу, вывучэньне гэтых пытаньняў у сьвятле клясавай барацьбы, якая выклікаецца па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва, як важнейшая дырэктыва партыі, дапаможа нам зьнішчыць разрыў паміж тэорыяй і практыкай.

Пытаньні прамфінпляну, вывучэньне пяцігодкі, як ўсяго Саюзу, так і данага раёну, прадпрыемства, саўгасу ці колгасу, пытаньні соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, пытаньні культурнай рэволюцыі і г. д.,—усё гэта ў програмах нашых партшкол, комвузаў і гурткоў павінна заняць тое месца, якое паказана ў дырэктывах ЦК.

Мы наглядаем зусім нормальнае зьявішча, што сярод партыйных і беспартыйных рабочых наглядаецца цяга да профэсіянальна-тэхнічнй адукацыі. Рабочыя ідуць у вячэрнія школы, профтэхнічныя школы, тэхнічныя гурткі і г. д. Я лічу, што гэтую цягу рабочых мы павінны падтрымаць, але адначасова мы павінны глядзець за тым, каб гэтыя школы ня прымалі, як гавораць, дзяляцкага характару. Бывае, што ў гэтых школах зусім мала месца адводзіцца нашым грамадзкім дысцыплінам, мала месца адводзіцца пытаньням марксысцка-ленінскай тэорыі. І таму, калі гэткія тэндэнцыі будуць мець месца, з такімі тэндэнцыямі патрэбна будзе весьці барацьбу.

Гэта цяга рабочых профтэхнічнай асьветы перад некаторымі паставілі пытаньне, ці ня ўвесьці элемэнты гэтай профтэхнічнай асьветы ў нашых партшколах. Як мы павінны адказаць на гэтае пытаньне? Я лічу, што элемэнты вузкага практыцызму ў нашых школах ня трэба ўводзіць. Лёзунг, што наша партыя павінна павярнуцца тварам да вытворчасьці, павінен азначаць, што сетка партыйнай асьветы павінна так пабудаваць сваю програму, каб належнае месца занялі пытаньні вытворчага характару, але ня пытаньні вузкатэхнічнага характару. Належнае месца павінна заняць у рабоце нашых школ пытаньне соцыялістычнага будаўніцтва, яно павінна стаць асноўным стрыжанем нашай партвучобы, вакол гэтага патрэбна сконцэнтраваць усе пытаньні, зьвязаныя з вучобай. Ня вузкі практыцызм, а пытаньні вытворчага характару, пэўныя політычныя пытаньні. Чаму мы сёньня так ставім задачу нашага партвыхаваньня? Таму, што ў задачы нашых школ уваходзіць ня толькі ўзброеньне членаў партыі марсыцка-ленінскай тэорыяй, але і тое, што мы праз нашы школы, праз партсетку выхоўваем кіраўнікоў, політычных кіраўнікоў соцыялістычным будаўніцтвам. І таму мы павінны быць узброены і ў гэтай галіне. Мы падрыхтоўваем працаўнікоў для цэхавай работы на вытворчасьці і кіраўніцтва нашым колгасным рухам і для кіраўніцтва нашым культурным сэктарам і г. д. і г. д. І таму ўжо ў саміх школах мы павінны набыць веды, напрыклад, па лініі організацыі працы ў тых жа колгасах, організацыі ўнутранага распарадку па пытаньнях кіраўніцтва і г. д.

Такім чынам, якім жа павінен быць у сьвятле гэтых задач асноўны стрыжань нашай вучобы? Якія стаяць асноўныя задачы? Гэтымі задачамі зьяўляюцца: пропаганда важнейшых задач політыкі партыі і Комінтэрну, згуртаваньне шэрагаў партыі для барацьбы з ухіламі ад генэральнай лініі партыі, пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва.

Вось стрыжневыя пытаньні, вакол якіх павінна быць пабудавана ўся наша вучоба, на падставе якіх павінна быць пабудавана програма ўсяе нашае партыйнай сеткі ад ніжэйшых да вышэйшых зьвеньняў.

Другое важнае пытаньне, калі мы гаворым аб партвучобе,—гэта пытаньне пропагандысцкіх кадраў. Мы маем недастатковую колькасьць гэтых кадраў па лініі комсамольскай вучобы. Мне казалі таварышы з Аршаншчыны, што ў іх цэлы шэраг школ ня могуць функцыянаваць з-за адсутнасьці патрэбнай колькасьці пропагандыстых. Калі мы возьмем налічча кадраў пропагандыстых, якія ёсьць, дык, паперщае, сярод складу нашых пропагандыстых мы маем вельмі слабую рабочую праслойку; падругое, нізкі тэорэтычны ўзровень значнай часткі нашых пропагандыстцкіх кадраў. Вось адсюль і тыя задачы, якія перад намі стаяць. Мы ў гэтым годзе правялі курсы ў трох акругах. Мы набралі курсантаў галоўным чынам з рабочых, каб запоўніць гэтую прарэху ў нашых пропагандыстцкіх кадрах, але гэтага вельмі і вельмі мала. Нашая Гомельская цэнтральная саўпартшкола выпускае нязначную колькасьць кадраў. Тыя выпускі, якія дае школа, кропля ў моры, калі ўзяць вялікія запатрабаваньні на пропкадры. Задачы падрыхтоўкі пропагандысцкіх кадраў, задача ўзмацненьня рабочага ядра сярод пропагандыстых, задача перападрыхтоўкі тых пропагандысцкіх кадраў, якія ў нас ёсьць, зьяўляюцца важнейшымі задачамі, якія стаяць перад нашай організацыяй.

Цяпер паглядзім, у якім становішчы знаходзіцца наша вучоба наогул. У нас ёсьць наступныя формы вучобы: пачатковая партшкола з 3-4-месячным курсам і асноўная вячэрняя саўпартшкола, далей цэнтральная саўпартшкола і комвуз. Побач з гэтым існуюць гурткі па вывучэньню паасобных пытаньняў марксыцкаленінскай тэорыі, па вывучэньню пытаньняў бягучай політыкі. Ёсьць яшчэ ў нас і завочнае навучаньне як па сярэдніх, гэтак і па вышэйшых зьвеньнях, перападрыхтоўка партыйнага актыву шляхам завочнага навучаньня.

Перад намі стаіць задача ў першую чаргу ахапіць тыя масы партыйцаў, якія сёньня, на даным этапе, уступілі ў нашую партыю. Гэтую задачу павінны выканаць у першую чаргу першапачатковыя школы. Разам з гэтым перад намі стаіць задача падвышэньня тэорэтычнага ўзроўню асноўных мас актыву. З гэтай задачай павінна справіцца вячэрняя саўпартшкола, вяч. комвуз і г. д. Аднак, трэба сказаць, што з перападрыхтоўкай, з падрхытоўкай актыву партыі ў нас справа стаіць вельмі і вельмі дрэнна. Тое абсьледваньне, якое было праведзена ў мінулым годзе Таксерам і Карыба, констатавала, што мы маем поўны прарыў на гэтым фронце.

Ня лепш справа стаіць і з перападрыхтоўкай кіруючых кадраў. Нам ніяк не ўдаецца ахапіць іх сеткай стацыянарнай вучобы. Мы прабавалі ахапіць іх сеткай завочнай партвучобы, але як паказала практыка, гэтая спроба таксама была няўдалай. Партыйцы, якія запісаліся ў завочны комвуз, добра калі з дзесятку адзін здаў адно альбо два заданьні. І таму трэба нам аб гэтым падумаць, бо як паказала чыстка шэрагаў партыі, нават таварышы з кіруючых кадраў, якія былі сэкратарамі акругкомаў, альбо адказнымі работнікамі цэнтральных устаноў, аказаліся малапісьменнымі ў пытаньнях марксызму-ленінізму.

Увага нашае нарады павінна быць зьвернута на тое, каб у першую чаргу ахапіць тыя масы, якія прышлі ў нашу партыю з шэрагаў ударнікаў, з рабочых сталай вучобай і стацыянарнй сеткай, а таксама ахапіць асноўныя кадры нашага актыву і, нарэшце, стварыць усе магчымасьці перападрыхтоўкі нашых кіруючых кадраў, знайсьці належныя формы і мэтоды вучобы. У нас ёсьць вельмі добрая пастанова аб тым, каб выдзеліць адзін-два дні для партвучобы, але калі мы запытаем: хоць-бы ў адным месцы выконвалася дырэктыва ЦК? Я упэўнен, што мы ня знойдзем ніводнага прыкладу. Больш таго, у нас уведзен бесьперапынак, гэта значыць, што кожны пяты дзень чалавек павінен адпачываць, але ў нас атрымаўся поўны бесьперапынак, начынаючы ад вышэйшага і да нізавых зьвеньняў.

Я лічу, што трэба будзе вынесьці спэцыяльную пастанову, якая забараняе выходзіць на працу ў дзень адпачынку, бо такая суцэльная бесьперпынка пазбаўляе магчымасьці прачытаць газэты, за-

няцца тэорэтычнай вучобай, ня кажучы аб тым, што гэта адбіваецца і на здароўі.

Пытаньне сыстэмы партасьветы. Гэтае пытаньне разглядалася на ўсесаюзнай партнарадзе. Я думаю, што ў нас няма ніякіх прычын, каб рабіць каранную ломку, каб рабіць якую-небудзь зьмену ў той сыстэме, якая ў нас ёсьць. Яна сябе ў асноўным апраўдала. Што датычыцца школы—перасоўкі, то мы ведаем, што яна ў нас аджыла. Што датычыцца адзінай школы, дык ужо ўнесены зьмены, і мы ставім пытаньне аб 3-4 месячных пачатковых партшколах для тых таварышоў, якія ўступілі ў нашую партыю, для тых беспартыйных лепшых ударнікаў, лепшых рабочых, лепшых колгасьнікаў, якіх мы сёньня хочам уцягнуць у шэрагі нашай партыі. Трэба захаваць асноўнае зьвяно—нашы вячэрнія саўпартшколы II ступені. У вышэйшае зьвяно мы ўжо ўнесьлі зьмены ў зьвязку з задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду. Комвуз, які рыхтаваў наогул партыйных работнікаў, мы сёньня рэорганізавалі такім чынам, што ён будзе выпушчаць організатараў па лініі партыйнай работы, пропагандыстых, работнікаў па кіраўніцтву ў савецкіх установах, работнікаў па лініі культурнай рэволюцыі, работнікаў па лініі нашага друку. Такім жа парадкам мы рэоганізуем і наш вяч. комвуз.

Уся справа ў тым, каб зьмест нашае вучобы каранным чынам перабудаваць у такім напрамку, аб якім я гаварыў спачатку, у напрамку поўнай увязкі тэорыі з практыкай штодзённай нашай работы па соцыялістычнаму будаўніцтву. Мы, таварышы, павінны адначасова зьвярнуць сваю ўвагу і на тое, што з боку амаль што ўсіх організацый наглядаецца недаацэнка партвучобы, неабходнасьці узьняцьця тэорытычнага ўзроўню членў нашае партыі. Я ўжо гаварыў аб тым, што дырэктыва аб прадстаўленьні спэцыяльнага дня для партвучобы ня выконваецца; я ўжо гаварыў аб тым, што часта нашы кадры пропагандыстых скарыстоўваюцца абсолютна не па лініі іх непасрэднай работы і абавязкаў.

Я ўжо не кажу аб тым, што прававое становішча нашых пропагандыстых, іх матар'яльнае становішча не зьяўляецца такім, якім яно павінна было быць на сёньняшні дзень.

Я лічу, што мы павінны на гэты бок зьвярнуць ўвагу. З тымі тэндэнцыямі недаацэнкі партвучобы, недаацэнкі неабходнасьці ўзьняцьця тэорытычнага ўзроўню ўсіх нашых партыйных кадраў, пачынаючы ад нізавога работніка да кіруючых, з гэтымі тэндэнцыямі, як з тэндэнцыямі опортуністычнымі трэба самым рашучым чынам змагацца.

Мы на гэтай нарадзе павінны вызначыць шляхі і формы, якія дадуць нам магчымасьць у далейшым перабудаваць усю нашу партыйную вучобу такім чынам, каб работа адпавядала сёньняшнім тэмпам усяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**О. Канакоцін**

# Задачы і сыстэма партыйнай асьветы [1])

## Асаблівасьці сучаснага пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва і задачы партыйнай асьветы

Асаблівасьць сучаснага пэрыоду ставіць перад партасьветай, як перад аднэй з галоўнейшых галін усяе нашай партработы, шэраг такіх момантаў, з якімі па сутнасьці мы не сустракаліся яшчэ ў партыйнай вучобе. Разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту будаўніцтва, вялічэзнае паскарэньне тэмпаў індустрыялізацыі краіны, якое праходзіць пры нябачным уздыме творчага энтузыязму рабочай клясы, соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі пры ўзмацненьні кіруючай ролі пролетарыяту, пасьпяховае правядзеньне політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, значны рост партыі за лік прамысловага і сельска-гаспадарчага пролетарыяту, колгасьнікаў і беднякоў ставяць перад КП(б)Б задачу ўзмоцненага ўзброеньня ленінскай тэорыяй усіх членаў нашай партыі, лепшага аўладаньня гэтай тэорыяй, як сродкам барацьбы за генэральную лінію партыі.

Мы ніколі ня мелі такога вялічэзнага ўздыму энтузыязму і адданасьці пролетарыяту сваёй ленінскай партыі: пролетарыят даў у шэрагі партыі за адзін толькі квартал па ЎсеКП(б)—200 000 чал. У нас, па КП(б)Б за гэты год мы маем прырост амаль на 11.000. Гэтыя кадры павінны быць моцна ўзброены марксыцка-ленінскай тэорыі.

Мы павінны даць больш востра аточанае аружжа ў рукі нашага партактыву, каб кожны партыец-актывісты добра ўладаў гэтым аружжам, добра ведаў вучэньне Леніна аб партыі, каб ня было такіх выпадкаў, калі ў час чысткі адзін таварыш гаварыў: «комуністычная партыя была пераіменавана на другім зьезьдзе».

Мы павінны лепш узброіць ленінскай тэорыяй наш раённы актыў, каб у нас не паўтараліся прыклады, якія мелі месца на Магілеўшчыне, калі артыкул тав. Сталіна называлі опортуністычным.

Мы павінны ўзброіць ленінскай тэорыяй комсамол, каб у нас ня было такіх выпадкаў, як у Гомельшчыне, калі комсамольская ячэйка выносіла вымову тав. Сталіну за артыкул «Адказ таварышом колгасьнікам».

Сучасны пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва вызначае новыя задачы і новы зьмест партыйнай асьветы.

«Новая практыка спараджае новы падыход да проблем у экономіцы пераходнага пэрыоду. Па новаму ставіцца зараз пытаньне аб НЭП'е, аб клясах, аб тэмпах будаўніцтва, аб змычцы, аб політыцы партыі. Каб не адставаць ад практыкі, неабходна заняцца зараз жа распрацоўкай усіх гэтых проблем з пункту погляду новых абставін. Бяз гэтага немагчыма перамагчы буржуазныя тэорыі, якія засьмечваюць галовы нашых практыкаў» (Сталін).

Мы вялі рашучую барацьбу з буржуазнымі тэорыямі, народніцкімі і нэонародніцкімі тэорыямі, якія ва ўмовах БССР ня мала засьмечвалі галовы практыкаў.

Права-опортуністычныя тэорыі змыкаліся з нацыянал-шовіністычнымі. Мы мелі гэта на прыкладзе памылак такіх таварышоў, як Чарвякоў, Жылуновіч і Бэйлін.

Лепшае, больш дасканалае, вывучэньне марксыцка-ленінскай тэорыі, по-

---

[1]) Скарочаная прамова на нарадзе па партасьвеце пры культпропе ЦККП(б)Б.

літыкі і тактыкі партыі, вывучэньне задач партыі, вызначаных XIII зьездам КП(б)Б і XVI зьездам УсеКП(б), на падставе марксыцка-ленінскай тэорыі, зьяўляецца першачарговай і баявой задачай усяе партыйнай асьветы.

Мы павінны больш дасканала вывучаць марксысцка-ленінскую тэорыю, політыку і тактыку партыі, політыку і стратэгію партыі, пастановы XIII і XVI зьездаў на падставе гэтай тэорыі, бо калі вывучэньне пастаноў будзе адарвана ад марксысцка-ленінскай тэорыі, дык гэта можа прывесьці да голага дзяляцтва, што зьяўляецца вельмі шкодным.

У зьмесьце партыйнай асьветы асаблівая ўвага павінна быць накіравана на выкрыцьцё і барацьбу з тэорыяй і практыкай правага ўхілу, як больш небясьпечнага на даным этапе, на барацьбу з «левымі» загібамі і прымірэнцтвам, на барацьбу з буржуазнымі і нэонародніцкімі тэорыямі, на барацьбу з нацыянал-опортунізмам і шовінізмамі ўсіх колераў, на барацьбу з галоўнай небясьпекай ў правядзеньні ленінскай нацполітыкі—вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам і беларускім нацыянал-дэмократызмам, які грае на руку інтэрвэнцыі. Мы павінны ў зьмесьце партвучобы падрабязна разабраць карэньні нацыянал-дэмократызму, які мае сваё гісторычнае мінулае, які на сёньняшнім этапе ня толькі выліваецца ў лібэральна-буржуазную плынь, але зрабіўся на сёньняшні дзень сапраўды контр-рэволюцыйнай плыняй, які і організацыйна і ідэёва зьвязаны з беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі і Польшчы і выступае адзіным фронтам супроць нас.

Гэтыя тэорыі іншы раз афарбоўваюцца мастацкі асобнымі пісьменьнікамі, як Зарэцкі (былы комуністы), які ў сваім творы «Крывічы» піша, што ў вёсцы ўзьнімаюцца масы, якія знаходзяць сваіх ідэолёгаў, і вось Беразоўскі пакідае тэстамэнт тым, хто выступае супроць бальшавікоў, ёсьць і іншыя прыклады, але мы гаворым тут толькі ў парадку ілюстрацыі дзейнасьці нац. дэмократаў. У зьмесьце партвучобы трэба рашуча выкрываць беларускі нацыянал-дэмократызм і яго контр-рэволюцыйную сутнасьць.

Таксама і барацьба з нацыянал-опортунізмам і шовінізмам усіх колераў павінна зьяўляцца аднэй з асноўнейшых задач у разьдзеле барацьбы за гэнэральную лінію нашай партыі.

XIII зьезд КП(б)Б і XVI зьезд УсеКП(б), а таксама і тав. Сталін у сваім дакладзе з усёй рашучасьцю падкрэсьліл, што нам неабходна зараз больш рашуча змагацца з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, які ад мэтодаў «італьянскай забастоўкі» пераходзіць зараз у наступленьне.

Мы ведаем, што нават у нашых школьных падручніках вялікадзяржаўны шовінізм паказвае свой няпрыглядны варожы твар.

Вялікадзяржаўны шовінізм абапіраецца на расійскае кулацтва, на значныя пласты буржуазнай інтэлігенцыі, спэцыялістых, былых чыноўнікаў. Ён, вялікадзяржаўны шовінізм, зьяўляецца галоўнай небясьпекай на фронце барацьбы партыі супроць нацыянальных ухілаў. Барацьба з ім павінна стаяць на першым пляне і ў партыйнай вучобе.

Працуючы на Беларусі, на мяжы з капіталістычным Захадам, з асаблівай настойлівасьцю трэба вывучаць пытаньні політыкі і тактыкі Комінтэрну, пытаньні міжнароднага рабочага руху ва ўмовах росту крызысу сусьветнага капіталізму і росту рэволюцыйнага ўздыму ў імпэрыялістычных краінах і колёніях, у прыватнасьці ў Заходняй Беларусі і Польшчы.

А ці добра у нас у партшколах пастаўлена справа з вывучэньнем рэв. руху ў Заходняй Беларусі і Польшчы?—Не, вывучэньне гэтага пытаньня ў нас пастаўлена вельмі дрэнна. А гэта зьвязана на сёньняшні дзень ня толькі з вывучэньнем тэорыі; трэба ведаць, што нам прыдзецца праводзіць у Заходняй Беларусі і Польшчы пасьля рэволюцыі социялістычнае будаўніцтва.

Вось таму вывучэньне політыкі і тактыкі Комінтэрну павінна займаць у зьмесьце нашай партвучобы адно з відных месц.

Апрача таго, з зьместам нашай вучобы неабходна ўвязваць партыйную практычную работу, каб сетка партыйнай асьветы зьяўлялася дзейнічаючым

організмам у нашай партыі, каб вучоба была зьвязана з практыкай. Вучэбныя пляны павінны быць так пабудаваны, каб тыя, хто вучыцца, удзельнічалі больш актыўна ва ўсёй партрабоце.

Зразумела, што кожны, хто вучыцца ў партсэтцы,прымае бязумоўна ўдзел у гэтай рабоце, але сама партсетка ў большасьці сваёй у гэтых пытаньнях зьяўляецца пасыўнай, і вось таму нам неабходна паставіць зараз рашучым чынам пытаньне аб удзеле ўсяе сеткі ва ўсіх практычных пытаньнях, якія вырашае партыя.

Конкрэтнымі задачамі партыйнай асьветы павінны быць, папершае, падрыхтоўка таго беспартыйнага актыву, які зьяўляецца блізкім да нашай партыі, які жадае ўступіць у партыю, падрыхтоўка таго беспартыйнага актыву колгасьнікаў, які аддана змагаецца разам з намі за правядзеньне політыкі партыі, за ліквідацыю кулацтва як клясы; падрыхтоўка гэтага актыву для яшчэ большага набліжэньня яго да партыі, для ўступленьня яго ў партыю павінна зьяўляцца нашай чарговай задачай.

Асаблівую ўвагу мы павінны зараз зьвярнуць на бальшавіцкае выхаваньне нанова ўступіўшых у партыю. Мы ўжо адзначалі, што па аднэй КП(б)Б прынята за год каля 11.000 таварышоў. Па аднэй цэнтральнай Менскай організацыі мы маем членаў партыі на 81 проц. з стажэм ад 1925 да 1930 г., а калі возьмем такія акругі, як Полацкую, Мазырскую і інш. і азнаёмімся са справаздачамі акругкомаў, то ўбачым яшчэ большы процант маладых членаў і кандыдатаў партыі. Праўда, гэтыя таварышы, прайшлі фронт грамадзянскай вайны, гэтыя таварышы маюць вытворчы, саўгасны ці іншы стаж савецкай работы, але гэтыя таварышы ў пытаньнях ленінскай тэорыі, у пытаньнях бальшавізму вельмі слабы. Таму перад намі стаіць галоўнейшая задача—бальшавіцкае выхаваньне гэтых новых членаў партыі. Мы павінны напружыць усе сілы, каб выхаваць гэтую частку новых членаў і кандыдатаў партыі. Умовы, у якіх мы жывем, умовы сучаснага пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва выклікаюць неабходнасьць узброеньня марксысцка-ленінскімі ведамі ўсяе масы членаў партыі пагалоўна. Мы ставім задачу ліквідацыі няпісьменнасьці для ўсяго насельніцтва і калі гаворым, што соцыялістычная перабудова краіны патрабуе пагалоўнай пісьменнасьці насельніцтва, то тут мы павінны сказаць: рашучае наступленьне па ўсіх франтох соцыялістычнага будаўніцтва патрабуе ад нас пагалоўнай марксысцка-ленінскай пісьменнасьці ўсіх членаў і кандыдатаў партыі.

Асаблівую важнасьць набывае падрыхтоўка партыйнага актыву. Мы знаходзілі не адзін прыклад няпісьменнасьці партыйнага актыву, а, на вялікі жаль, дзесяткі прыкладаў абсолютнай няпісьменнасьці партыйнага актыву. Справа з падрыхтоўкай гэтай часткі партыі стаіць далёка не на належнай вышыні.

Мы павінны прыстасаваць нашу партыйную сетку і для падрыхтоўкі асобных груп партыйных работнікаў, для асобных галін партыйнай працы.

І, нарэшце, перад намі стаіць задача бальшавіцкага выхаваньня нашай ленінскай зьмены—комсамолу. У нас, проста гаворачы, мала цікавіліся комсамольскай вучобай. Казалі, у комсамола ёсьць свая сетка, і няма чаго нам клапаціцца аб тым, каб уключыць процант комсамолу ў партыйную сетку. Праўда, сёньня на акруговых курсах праводзілі вучобу комсамольцаў-перадавікоў, але гэта ня было як правіла.

Такім чынам, вызначаючы задачы, якія вынікаюць з умоў сучаснага пэрыоду, мы ставім конкрэтныя задачы перад самой партвучобай, каго мы павінны рыхтаваць.

## Вынікі работы па партыйнай асьвеце

У многіх таварышоў складаецца такая думка, што можна адкладваць партыйную вучобу і на год і болей з прычыны збору сельска-гаспадарчага падатку ці з прычыны колектывізацыі. Тав. Кагановіч прыводзіў прыклад, калі адкладвалі вучобу з прычыны збору гаспадарчага падатку на год. У нас ёсьць прыклады, калі адкладвалі партвучобу на год, «выходзячы з патрабаваньняў правядзеньня колектывізацыі».

Але ня гледзячы на такія ненормальныя зьявішчы, мы ў справе партасьветы маем вялікія дасягненьні. Зусім яскрава, што калі-б мы ня былі дастаткова ўзброены марксыцка-ленінскімі ведамі, мы-б ня так дружна, не з такім адзінствам білі правы і «левы» ўхілы. Маса членаў партыі ў асноўным вырасла. І праў тав. Кагановіч, які на XVI-ым зьезьдзе гаварыў аб тым, што шырокія партыйныя масы ў асноўным зразумелі, што «пытаньні партыйнай тэорыі не зьяўляюцца ў нашай партыі справай нявялічкай групкі кіраўнікоў; што ня можа быць рэволюцыйнай партыі, якая ігноруе рэволюцыйную тэорыю; што практыка будзе сьляпая, калі яна не асьвятляе свой шлях марксызмам і ленінізмам» (XVI зьезд УсеКП(б)—тав. Кагановіч). Гэта становішча разумеюць асноўныя масы нашай партыі, і ў гэтым вялікае дасягненьне нашай партыйнай асьветы. Мы ніколі не праводзілі асьвету пад сьцягам чыстай асьветы. Мы заўсёды зьвязваем вучобу з практыкай. Мы марксысты-бальшавікі і гаворым, што рэволюцыйная тэорыя павінна быць цесна зьвязана з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва. І таму мы ўсю нашу працу, усю сваю сетку будавалі так, што ўвязвалі тэорыю з практыкай. Праўда, у нас былі выпадкі голага тэорэтызму.

Тыя політычныя дасягненьні, якія наглядаюцца на агульным фоне вучобы, ні ў якім разе не павінны зацямняць недахопаў, якія ёсьць, а недахопаў у партыйнай вучобе ў нас бязумоўна засталося шмат. Мы яшчэ адстаем у тэмпах разгортваньня сеткі, а жыцьцё прад'яўляе вялічэзныя запатрабаваньні ў разгортваньні сеткі, у ахопе таго беспартыйнага актыву, які жадае ўступіць у партыю, у ахопе нанова ўступіўшых у партыю. З разгортваньнем сеткі мы, як належыць, яшчэ ня справіліся. Да гэтай справы мы падыходзім як-та марудна. Мы мелі шэраг выпадкаў, калі наша партыйная сетка не рэагавала на антысераднякцкія перагібы, калі партыйная сетка стаяла ў баку ад тых мерапрыемстваў, якія праводзіліся партыяй. «Аднак, ідэёва-політычны ўзровень значнай часткі партыйных кадраў усё яшчэ недастатковы»,—кажа ў сваёй пастанове XVI зьезд УсеКП(б), што паказалі шматлікія факты антысераднякцкіх перагібаў. Задача ўзмацненьня і падрыхтоўкі партыйных кадраў, асабліва ў вёсцы, паўстае перад намі ва ўсёй шырыне». Гэтая пастанова XVI зьезду з усёй яскравасьцю і з усёй бальшавіцкай рашучасьцю падкрэсьлівае недахопы, якія наглядаліся ў справе партасьветы.

Ахоп нанова ўступіўшых у шэрагі партыі быў вельмі нязначны. З падрыхтоўкай кандыдатаў у партыю і новых членаў, якія маюць гадавы і нават двухгадовы стаж, мы, як належыць, ня справіліся. Тлумачыцца гэта тым, што пры комплектаваньні сеткі партасьветы пры значным, праўда, пашырэньні жадаючых вучыцца ў партшколах і гуртках, значная частка ячэек недастаткова сур'ёзна падыходзіла да гэтай справы, не правярала, як ідзе вучоба і хто вучыцца.

У паасобных выпадках мела месца такое становішча, што 70 проц. адсеялася з школ, а ў іншых школы зусім развалілiся.

З укомплектаваньнем сеткі ў мінулым годзе справа стаяла вельмі дрэнна; галоўнымі прычынамі тут трэба лічыць тое, што партыйная сетка ў значнай сваёй частцы недастаткова ўвязвала пытаньні практычнай работы слухача з той тэорыяй, якую яна яму дае. Адсеў быў і з прычыны дрэннай якасьці выкладчыкаў.

Два маленькія прыклады з Менску: адзін пропагандысты агітуе, прыкладна, так: «Таварышы, вы ведаеце, чаму ў Амерыцы ўсе рабочыя едуць на аўтомобілях? Ды справа вельмі простая, яны 25 проц. заплоцяць Форду, а потым сеў на машыну і ўехаў». Другі пропагандысты на фабрыцы кажа прыблізна так: «Па зводцы Струміліна выходзіць, што мы ад сялян бярэм столькі-та падатку, а даем столькі-та на больніцы, школы і г. д., і выходзіць, што селянін сваімі ўкладамі ад сельскай гаспадаркі ня ўдзельнічае ў індустрыялізацыі краіны».

Гэтая няпісьменнасьць пропагандыстых, бязумоўна, зьяўлялася аднэй з прычын нежаданьня вучыцца ў такіх пропагандыстых.

Неабходна адзначыць, што пакідаюць вучобу і па такіх прычынах, як мобілізацыя самых пропагандыстых і слухачоў на ўсялякія кампаніі, пры няўменьні партыйнай сеткі зьвязаць тэорыю вучобы з практычнай дапамогай раённым організацыям ці ячэйкам у іх практычнай рабоце.

XIII зьезд КП(б)Б так характарызаваў становішча з партвучобай: «Становішча са справай падрыхтоўкі кіруючых партыйных кадраў, а таксама са справай падвышэньня тэорытычнай падрыхтоўкі, асабліва нанова прынятых сяброў партыі, зьезд лічыць нездавальняючым. Неабходна палепшыць у якасным і колькасным сэнсе комплектаваньне сыстэмы партасьветы (СПШ, комвуз, завочнае навучэньне і г. д.) слухачамі і выкладчыкамі, палепшыць матар'яльнае забясьпечаньне слухачоў, дабіцца пералому ў адносінах мясцовых парторганаў да справы адбору слухачоў для сеткі партасьветы і да сыстэмы завочнага навучэньня» (з пастановы XIII зьезду КП(б)Б.)

За выпраўленьне недахопаў, за разгортваньне справы партыйнай асьветы мы павінны ўзяцца, улічваючы вынікі працы мінулага вучэбнага году.

## Сыстэма партыйнай асьветы

Першачарговай задачай усяе работы партыйнай асьветы, бязумоўна, зьяўляецца пашырэньне сеткі партыйных школ, гурткоў, пашырэньне завочнага навучаньня.

Для мясцовых організацый і партсеткі павінен быць баявы лёзунг—пагалоўны ахоп усіх сяброў і кандыдатаў партыі вучобай.

Сама сыстэма сеткі партвучобы не патрабуе ніякай караннной ломкі, але неабходна выразна ўстанавіць, што павінна быць за раёнам і што за цэнтрам, бо зараз выпадае акруговае зьвяно.

У раёне мы павінны зрабіць асноўную базу партыйнага выхаваньня. Раённая сетка павінна складацца з наступных зьвеньняў, як гэта вызначана і на ўсесаюзнай партыйнай нарадзе.

1. Для падрыхтоўкі новых членаў і кандыдатаў партыі, актыву комсамолу, беспартыйнага актыву з рабочых, батракоў, колгасьнікаў і беднякоў вызначаецца першапачатковая партыйная школа з 3-4 месячным тэрмінам навучаньня.

Мы, такім чынам, рэорганізуем адзіную савецка-партыйную школу ў пачатковую школу з 3-4-месячным тэрмінам навучаньня з тым, каб яна зьяўлялася асноўным зьвяном масавай партыйнай асьветы.

Разам з гэтым неабходна пашырыць організацыю гурткоў па пытаньнях бягучай політыкі каротка-тэрміновых курсаў.

У раёне трэба праводзіць і падрыхтоўку пропагандыстых для гэтай сеткі.

Асноўнай формай сярэдняга зьвяна мы, як і раней, лічым двухгадовую вячэрнюю саўпартшколу з закончаным цыклем першага году навучаньня, каб на другі год слухач школы мог падвышаць тэорытычны ўзровень па асобных галінах.

На ўсесаюзнай партыйнай нарадзе патаноўлена, што для пачатковых школ і для вячэрніх саўпартшкол устанаўліваецца для ўсяго Саюзу адзіная програма, устанаўліваецца адзіны плян заняткаў. Гэта значна палепшыць працу партыйнай асьветы, установіць адзінатыпнасьць школ.

Толькі пры такіх умовах, калі ў нас будзе адзіная програма і плян навучаньня, мы зможам пабудаваць гэтую сетку, як адзіную і магутную сетку партыйнай асьветы.

Разам з двухгадовай вячэрняй партшколай, як і раней будзем мець марксыцка-ленінскія гурткі, прадметна тэматычныя гурткі, якія ўваходзяць у сярэдняе зьвяно партыйнага навучаньня.

У буйных раёнах для падвышэньня тэорытычнага ўзроўню актыву неабходна організаваць дэкадныя комвузы. Комуністычны унівэрсытэт павінен узяць на сябе распрацоўку програм дэкадных комвузаў. Пры тым становішчы, што лектарскіх сіл на Беларусі значна прыбавіцца з організацыяй яшчэ васьмі вышэйшых навучальных устаноў у такіх гарадох, як Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, пры правільным разьмеркаваньні лектарскіх сіл мы зможам паставіць дэкадныя комвузы і ў буйных гарадох і ў некаторых раёнах.

Для сталага кіраўніцтва пропагандыстых у раёнах мы павінны ўключыць у плян работы ў раёнах і сэмінарыі пропагандыстых.

У сувязі з ліквідацыяй акруг, на раённыя комітэты ўскладаецца правядзеньне такіх мерапрыемстваў, як падвышэньне кваліфікацыі і спэцыялізацыі пэўных кадраў партыі. На раённыя комітэты павінна быць ускладзена правядзеньне організацыі курсаў ячэйковага і раённага актыву, г. зн., сэкратароў яч., жаноргаў, падрыхтоўка нізавога зьвяна і часткова сярэдняга зьвяна пропагандыстых, часткова таму, што гэта можа быць толькі там, дзе ёсьць магчымасьць, бо, як правіла, не ва ўсіх раёнах можам праводзіць падрыхтоўку сярэдняга зьвяна пропагандыстых.

Пры вызначэньні выразнасьці ў сетцы партасьветы, якую мы будуем, выходзячы з вытворчага прынцыпу, трэба сказаць два словы аб тых організацыйных формах, якія будуць адрозьніваца ў адносінах організацыі сеткі ў горадзе і ў вёсцы. У горадзе на сёньня мы можам будаваць партшколы на прадпрыемствах, а дзе гэтыя прадпрыемствы маленькія, там аб'яднаць па 2-3 прадпрыемствы ў адной школе, добра абсталяваць такую школу, дабіцца таго, каб школы ня былі ў сталоўках заводу, ці ў пажарным дэпо, што наглядаецца ў некаторых месцах.

У горадзе неабходна праводзіць курсы-конфэрэнцыі па заводах, нават і па цэхах па актуальных, політычных пытаньнях.

Партсетка на вёсцы павінна будавацца ў колгасах, саўгасах, пры буйных ячэйках, і толькі там, дзе ёсьць невялікая колькасьць членаў партыі ў асобных колгасах, мы павінны аб'яднаць іх пры асобнай ячэйцы ці колгасе.

Неабходна скарыстаць і такі від вучобы, як каротка-тэрміновыя курсы-конфэрэнцыі батракоў і колгасьнікаў. Гэта ўжо мела месца па Гомельшчыне і па другіх акругах, дзе гэтыя курсы мелі вялікае значэньне і прайшлі пасьпяхова.

Вышэйшая форма партасьветы застаецца пад непасрэдным кіраўніцтвам цэнтральнага комітэту. Да гэтай формы партасьветы мы адносім беларускую саўпартшколу (дзённую, вячэрнюю і завочную), комвуз—таксама дзённы і вячэрні і завочны, Беларускі дом партасьветы, які толькі што адчыніўся і які ўжо працуе, курсы раённага актыву пры комвузе Беларусі, сталыя курсы комсамольскага актыву таксама пры комвузе, курсы падрыхтоўкі пропагандыстых для сярэдняга зьвяна.

Да вышэйшай формы партасьветы мы адносім пэрыодычныя лекцыі для цэнтральнага актыву і ўсю сыстэму завочнага вышэйшага навучаньня.

Галоўная-ж апора партасьветы—гэта раён, дзе ў нас будуецца тая партсетка, якая выхоўвае асноўныя шырокія масы партыі.

## Мэтодычнае кіраўніцтва

Складанасьць справы партвучобы, пры яшчэ нізкім узроўні пропагандыстых, патрабуе зусім выразнага, своечасовага мэтодычнага кіраўніцтва. Улічваючы ліквідацыю акруговага зьвяна ў кіраўніцтве партасьветай, неабходна мець адзіны кіруючы цэнтр па мэтодыцы пры культпропе ЦК КП(б)Б. Такі мэтодычны цэнтр пры культпропе ЦК ужо організаваны. Мэтодычныя нарады ў раёнах, якія мы рэкомэндуем склікаць, значна дапамогуць таварышом, якія слабы ў мэтодыцы, выпраўляць недахопы ў працэсе работы, такія нарады трэба ўвесьці як сыстэму работы ў раёнах.

З усей вастратой стаіць пытаньне аб падручніках. У мэтах зьнішчэньня прарыву на гэтым вучастку неабходна выдаць жывы популярны падручнік — часопіс для нізавой сеткі з тым, каб выданьнем падручніка-часопісі канчаткова зьнішчыць размычку паміж тэорэтычнымі пытаньнямі і пытаньнямі бягучых задач партыі. Выдаваць падручнік-часопісь, па нашай думцы, трэба адзін раз у месяц.

Для сярэдняга зьвяна яшчэ і дагэтуль застаецца нявырашаным пытаньне аб падручніку, у якім беларускі матар'ял павінен быць увязаны з агульна-саюзным. Выданьне расейскіх падручнікаў без дадаткаў беларускага матар'ялу, як правіла, нельга працягваць: у тых вы-

падках, калі расейскі падручнік выдаецца без беларускіх матар'ялаў, неабходна даваць усёй сетцы мэтодычныя паказаньні аб карыстаньні падручнікам з пералічэньнем беларускага матар'ялу.

Да складаньня падручнікаў патрэбна прыцягнуць тэорэтыкаў, якія ў нас ёсьць, аслабаніць іх ад усялякай працы і даручыць выпусьціць некалькі падручнікаў.

## Пропагандысцкія кадры

Задачы, якія ставяцца перад партыйнай асьветай, патрабуюць яшчэ большай ідэёва-тэорытычнай баяздольнасьці пропагандысцкіх кадраў, бо ад тэорэтычнай падрыхтоўкі і ідэёва-палітычнай вытрыманасьці пропагандыстакіраўніка ў значнай ступені залежыць посьпех партыйнай асьветы.

У сувязі з гэтымі запатрабаваньнямі неабходна правесьці перагляд складу пропагандыстых, стварыўшы ўмовы для падрыхтоўкі слабых таварышоў, прыцягнуць да пропагандысцкай работы таварышоў, якія скончылі комвуз, падрыхтаваных і здольных да пропагандысцкай работы; прыняць самыя рашучыя меры да вылучэньня новых кадраў пропагандыстаў з рабочых і старых партыйцаў.

Мы павінны паставіць пытаньне перад усімі райкомамі партыі аб пераглядзе нашых пропагандысцкіх кадраў з тым, каб уцягнуць у шэрагі пропагандыстых старых партыйцаў, якія маюць тэорытычную адукацыю, якія могуць быць скарыстаны на пропагандысцкай рабоце. У нас ёсьць шмат таварышоў, якія могуць выконваць гэтыя абавязкі, але ў нас яшчэ назіраюцца да пропагандысцкай работы, прыкладна, такія адносіны, аб якіх гаварыў т. Кіршон на зьезьдзе УсеКП(б). Калі да яго прыходзяць і пытаюць: «дзе ты працуеш?», ён адказвае: «на літаратурным фронце». «Ну, нічога, гэта пройдзе», як быццам гэта грып, катар, або ангіна. Так адносяцца і да пропагандыстых: «дзе ты мучаешся?» «Я ў партыйнай школе выкладаю». —«Да чаго ты там кісьнеш, цябе трэба было ўжо даўно высунуць, а ты тут закіс». І потым пытаюць: «за што-ж цябе паслалі туды?». Вось з такімі адносінамі трэба змагацца самым рашучым чынам.

Трэба дабіцца таго, каб нашы райкомы партыі на падставе пастаноў ЦК партыі ўцягнулі ў шэраг пропагандыстых старых партыйцаў. Гэта будзе вельмі і вельмі карысна для партыйнай сеткі.

Нельга прайсьці міма задач па падрыхтоўцы нацыянальных кадраў. У нас афіцыйна партыйная школа перайшла на белмову, але бяда ў тым, што самі нашы выкладчыкі ня ведаюць белмовы, і слухач сядзіць і адно слова ўразумее па расійску, другое—па беларуску, і часта адгэтуль бываюць непаразуменьні. На беларусізацыю кадраў порпагандыстых трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Таксама мы павінны зьвярнуць увагу на падрыхтоўку пропагандыстых нацменшасьцяй.

У прапановах мы гаворым: «для забясьпечаньня пасьпяховасьці партыйнае асьветы трэба стварыць пропагандыстым адпаведныя ўмовы для працы, рашуча адмовіўшыся ад практыкі беспадстаўных перакідаў на іншую работу, спыніўшы ўсякія беспадстаўныя мобілізацыі кіруючых пропагандысцкіх кадраў на месцах, і рашуча патрабаваць ад партыйных комітэтаў прадстаўленьня вольных дзён для самаадукацыі прапагандыстых, для падвышэньня іх тэорэтычных ведаў. Бяз гэтых умоў у нас будуць зрывы ў партасьвеце.

## Мэтод работы сеткі партасьветы

Мы даўно перашлі на бесьперапынку ў рабоце на фабрыках і ва ўстановах. Працуем ударнымі тэмпамі па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва, а партыйная вучоба да гэтага часу праводзілася сэзонна альбо кампанейскі. Самым рашучым чынам мы павінны скончыць і з кампанейшчынай і з сэзоншчынай, устанавіць бесьперапынны навучальны год і бесьперапыннае комплектаваньне для нізавых і сярэдніх зьвеньняў партасьветы.

Мы ўжо перавялі беларускі дом партасьветы на бесьперапынны год, будзем пераводзіць і ўсю партсетку на бесьперапынку.

Такі мэтод, як социялістычнае спаборніцтва, якое дае вялізарныя вынікі на нашых прадпрыемствах ва ўсёй нашай агульна-політычнай рабоце, да гэтага часу не скарыстоўваецца як мэтод работы, у партыйных школах і гуртках.

Трэба скарыстаць гэты мэтод для выкананьня навучальных плянаў, для выкананьня таго мінімуму, які вызначаецца па плянах упаасобку для кожнай групы, для кожнага вучня і для кожнага пропагандыстага. Трэба праводзіць социялістычнае спаборніцтва паміж школамі, паміж паасобнымі таварышамі і пропагандыстымі. Гэты мэтод дапаможа нам ўзьняць энэргію, узьняць энтузыязм усяе масы вакол партвучобы.

Ня гледзячы на разгортваньне, рашучае бальшавіцкае разгортваньне, самакрытыкі па ўсіх галінах нашага будаўніцтва і па ўсіх галінах партбудаўніцтва, партыйная вучоба яшчэ да гэтага часу ня ўзята пад бальшавіцкі агонь самакрытыкі.

Дзе ў нас, як належыць, пакрытыкавалі недахопы і прарывы партвучобы? Была толькі спроба ў некаторых акругах зрабіць агляд партвучобы. Добрая спроба, але гэта толькі перадавыя ластаўкі.

Але недахопы і прарывы з усёй рашучасьцю, з бальшавіцкай рашучасьцю, на фронце партнавучаньня не крытыкавалі. Ці крытыкаваў наш друк, як належыць, значныя прарывы і недахопы ў партасьвеце? Ён рабіў гэта толькі «у парадку фотографіі».

Неабходна констатавць слабасьць, а ў некаторых мясцох і поўную адсутнасьць самакрытыкі недахопаў і прарываў у партвучобе. Партыйныя організацыі і сетка партыйнай асьветы павінны самым рашучым чынам пабальшавіцку разгарнуць самакрытыку ўсіх недахопаў і прарываў.

Разам з гэтым трэба адзначыць зусім слабую ролю друку ў галіне партыйнай асьветы.

Організуючая роля друку павінна выразіцца ў асьвятленьні задач партыйнай вучобы, практычнага ўдзелу сеткі ў партыйнай рабоце, асьвятленьні добрага вопыту вучобы, цкаваньні ўсяго шкоднага, усіх недахопаў у вучобе.

## Кіраўніцтва партыйнай асьветай

Галоўным недахопам кіраўніцтва мясцовымі організацыямі зьяўляецца недаацэнка політычнага значэньня партыйнай вучобы, у выніку чаго ў некаторых організацыях наглядаецца шэраг ненармальнасьцяй, менавіта: зьняцьце пропагандыстых і слухачоў сеткі партасьветы для рознай працы, невыстарчальная прапрацоўка важнейшых політычных пытаньняў у сетцы партасьветы і інш.

Залогам пасьпяховай працы сеткі партыйнай асьветы зьяўляецца сыстэматычная праверка працы школ і гурткоў з пункту погляду праверкі якасьці выкладаньня, ідэолёгічнай вытрыманасьці партвучобы, выкананьня дырэктыў кіруючых органаў у галіне бальшавіцкага выхаваньня партыйнай організацыі.

У сувязі з тым, што акругі ўжо ліквідуюцца, асноўная цяжкасьць праверкі работы, асноўная цяжкасьць кіраваньня партасьветай ляжа бязумоўна на райкомы.

Перад РК тут стаіць шырачэзная задача, бо ў раёне будзе цэлы шэраг такіх устаноў партасьветы, якіх раней там ня было.

Разам з гэтым трэба сказаць, што партыйнае кіраўніцтва з боку культпропу, у прыватнасьці сэктару пропаганды, павінна быць ня толькі мэтодычным, але і сталым, жывым, шляхам організацыі пры культпропе ЦК КП(б)Б пропагандысцкіх груп па прыкладу ЦК УсеКП(б) з пасылкай гэтых груп ня толькі для інструктаваньня нізавой сеткі, але і для практычнага паказу, як належыць працаваць.

Галоўнае заключаецца ў тым, што нам трэба дабіцца рашучага пералому ў справе ўсяе партасьветы таму, што мы жывем зараз у такі пэрыод, які патрабуе ад нас лепшага ўзброеньня ўсяе КП(б)Б марксыцка-ленінскімі ведамі.

Д. О-іс

# На нарадзе па партасьвеце

(*Спрэчкі па дакладах т.т. Сянкевіча і Канакоціна*)

Спрэчкі, якія разгарнуліся вакол дакладаў тав. тав. Сянкевіча і Канакоціна «Аб задачах і сыстэме партыйнай асьветы на 1930/31 г.», высьветлілі цэлы шэраг буйнейшых недахопаў у справе партыйнай асьветы, а побач з імі і некаторыя дасягненьні. Асабліва цікавай зьяўляецца практыка Гомельскай акругі, якая ў мінулым навучальным годзе ўжыла цэлы шэраг новых форм масавай работы ў мэтах стварэньня грамадзкай думкі вакол пытаньняў партвучобы.

Якое становішча партсеткі? Усе выступаўшыя ў спрэчках констатавалі вялікія колькасныя вынікі комплектаваньня ў пачатку навучальнага году, усе констатавалі і вялікі адсеў. Прычыны адсеву: ад'езд, хвароба, пераход на іншую вучобу, нездавальненьне вучобай.

Комплектаваньне агульна-адукацыйнай сеткі, розных курсаў ня ўвязваецца з комплектаваньнем сеткі партвучобы, у выніку чаго масавы пераход на другія формы вучобы.

Нездавальненьне вучобай дае вялікую лічбу адсеву. «Калі мы возьмем агульна-адукацыйныя школы, то ўсяго гэтых школ мы маем 9, пры чым адсеялася там 308 чалавек, ці 34% усяго складу, і з гэтых адсеяўшыхся мы маем з прычыны нездавальненьня вучобай 119 чал. Калі мы возьмем АПШ, то там мы маем адсеў—134 чал., пры чым з прычыны нездавальненьня вучобай—39 (т. Ашаровіч—Гомель).

Прыходзіцца сумнявацца ў тым, ці можам мы лічыць пераход у агульна-адукацыйную сетку аднэй з асноўных прычын адсеву па партыйнай сетцы. Гомель, дзе гэту справу вывучалі, дае наступны малюнак: «дзе быў большы адсеў, ці па партыйнай сетцы, ці па агульна-адукацыйнай сетцы? Тут я павінен сказаць, што па агульна-адукацыйнай сетцы адсеў комуністых быў большы, чым па парт. сетцы, за выключэньнем тэхнічных гурткоў, вячэрніх рабфакаў і інш. сталых форм. Што датычыцца агульна-адукацыйных школ і інш., дык там адсеў комуністых быў вельмі вялікі» (Ашаровіч—Гомель).

Але галоўнай прычынай масавага адсеву, асабліва на вёсцы, усе выступаўшыя ў спрэчках лічылі недаацэнку значэньня партвучобы з боку партогаңізацый.

«Палітычная недаацэнка значэньня партвучобы ёсьць бязумоўна і ў акруговых партыйных і іншых організацыях» (Шчыцько—Бабруйск). «Возьмем цэлы шэраг раённых і акруговых організацый, якія крылі па пытаньнях колектывізацыі, выкананьня промфінпляну і г. д. А ці ўзгрэлі дзе-небудзь за правал партвучобы? Хіба гэта зьяўляецца менш важным пытаньнем, чым ўсе іншыя пытаньні?» (Жураўлёў—Віцебск).

Усе скардзяцца на слабую ўвагу і кіраўніцтва партвучобай і з боку ячэек на прадпрыемствах.

Якая роля друку ў «барацьбе за выкананьне пляну партвучобы»?

«Мы маем цэлы шэраг прыкладаў, калі ў нашым друку, як правільна зазначыў тав. Канакоцін, застанаўліваліся на цэлым шэрагу пытаньняў, у адносінах якіх былі прарывы. Аб гэтым своячасова гаварылі, шумелі і г. д., але калі мы возьмем пытаньне партвучобы, то наш друк у гэтых адносінах нічога не зрабіў для таго, каб організаваць думку навакол гэтага пытаньня, і такім чынам гэтыя пытаньні праходзілі міма ўвагі нашых організацый. Але калі друк мала звярочваў увагі на гэтае пытаньне, то і з боку са-

мога ЦК таксама зварочвалася ў гэтых адносінах мала ўвагі» (Жураўлёў—Віцебск).

У Гомлі вылучылі спэцыяльныя брыгады корэспондэнтаў для агляду ходу партвучобы, вызначылі пэўныя тэрміны, а потым... зьмясьцілі ў газэце 3 нататкі.

У Менску 3 тыдні дабіваліся зьмяшчэньня ў «Зьвязьдзе» ліста партвучобы.

Але там, дзе культпроп АК здолеў стварыць партыйна-грамадзкую думку вакол пытаньняў партвучобы, мы ўсё-ж такі маем лепшае становішча, чым ў астатніх акругах. Вось які вопыт мае Гомельшчына:

«Раней за ўсё мы пачалі ў асноўным вырываць дні вучобы, каб гэтыя дні ня былі зьмецены шквалам агульнай работы. У гэтых адносінах мы маем якіякольвек дасягненьні. Раней мы ўвялі гэтыя дні, потым прымянілі партспагнаньні, потым прозьвішчы тых, якія склікалі паседжаньні, зьмяшчалі ў друку і г. д. Асабліва ў Сталінскім і Залінейным раёнах быў прыменены мэтод брыгад. Што яны рабілі? Раённы комітэт мобілізаваў пэўную групу таварышоў, абіраў старасту брыгады і накіроўваў яе ў ячэйку з заданьнем правесьці вывучэньне становішча партасьветы. Ім даручалася склікаць сходы комуністых, якія адсеяліся з школ партасьветы.

(Голас з месца—Нехацімцаў).

Склікаліся сходы адсеяўшыхся, і вось там выклікаліся таварышы, і кожнага запытвалі, чаму ён адсеяўся і г. д. Адным словам, актывізавалі, растлумачвалі і г. д. Гэтыя брыгады працавалі ў лютым-сакавіку, і імі зроблена шмат. Тут работа праводзілася ўдарнымі мэтодамі. Потым рабіўся агляд партвучобы ў друку. «Палеская Праўда» за красавік і май м-цы праводзіла масавы агляд партасьветы ў друку. Мы склалі журы пад кіраўніцтвам сэкратара акруговага комітэту, абвясьцілі прэміі корэспондэнтаў і вынесьлі пастанову, каб бюро яч. заклікала на рэагаваньне. Праўда, тут мы маем невялікія вынікі, але ўсё-ж такі ніякай ячэйцы не хацелася папасьці ў друк» (Ашаровіч—Гомель).

Тав. Пэўзнэр (Віцебск) прапануе правесьці масавую праверку палітычных ведаў комуністых ў мэтах палягчэньня комплектаваньня на наступны навучальны год, але гэта прапанова сустракае дружны адпор з боку шэрагу дэлегатаў нарады.

Тав. Гурчонка ўносіць прапанову паставіць пытаньне аб партасьвеце на бліжэйшым пленуме ЦК КП(б)Б.

Як у нашых школах увязана тэорыя з практыкай? Які ўдзел школы, як організацыйнай адзінкі, у практычных задачах соцыялістычнага будаўніцтва на прадпрыемстве, у колгасе, саўгасе?

На жаль, мы яшчэ досыць часта маем наступны малюнак.

«Трэці недахоп, які тут усе констатавалі—гэта дрэнная ўвязка тэорэтычнай вучобы з практычнай.

Мы таксама зрабілі агляд гэтай працы. Атрымоўваецца наступнае. У ячэйках прапрацоўваецца пытаньне аб правых і «левых» загібах у нашай партыі і ў Комінтэрне, але гэтыя ячэйкі ня бачаць на практыцы ў сябе гэтых загібаў. Аб права-опортуністычных вылазках у Комінтэрне яны гавораць, асуджаюць, а аб сваіх памылках ні слова, яны гэтага ня бачаць» (Шчыцько—Бабруйск).

Але дзе-ні-дзе ёсьць ўжо пералом, ёсьць ужо жывы ўдзел школы ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. Вось аб чым рассказвае таварыш з Гомля:

«У нас асобныя таварышы абвяшчалі сябе ўдарнікамі, бралі на сябе тры абавязацельствы. Першае—быць ударнікам на сваім прадпрыемстве, другое—акуратна наведваць школу і трэцяе—у максымальна кароткі тэрмін беларусізавацца. Я павінен сказаць, што гэтае ўдарніцтва ў асноўным было распаўсюджана ў горадзе і яно сябе цалкам і поўнасьцю апраўдала» (Ашаровіч—Гомель).

Некаторыя таварышы лічаць, што слабая ўвага парторганаў да партвучобы зьяўляецца якраз вынікам акадэмічнасьці апошняй, адарванасьці ад жыцьця, вынікам таго, што мы, «культпропшчыкі», яшчэ не змаглі давесьці, што партвучоба непасрэдна дапамагае колек-

тывізацыі, выкананьню прамфінпляну і г. д. Вось як выразіў гэтую думку тав. Ляхаў (Мазыр).

Толькі тады, калі кожны сэкратар яч., кожны комуніст, які адказвае за працу на месцы, будзе бачыць, што партсетка дапамагае выкананьню пастаўленых задач і дапамагае паставіць як належыць працу ў колгасе, саўгасе, толькі тады ён зразумее гэтую карысьць і пойдзе насустрэч, і тады мы будзем назіраць у гэтых адносінах увагу. І ўсякія нашы крыкі аб недастатковай увазе не застануцца бясплоднымі».

Якой павінна быць сыстэма масавай партыйнай вучобы на наступны год?

У асноўным выступаўшыя ў спрэчках згадзіліся з прапановамі дакладчыка.

Усе лічаць правільным організацыю школ непасрэдна на вытворчасьці, у выпадку немагчымасьці—організацыю базавых школ, скарачэньне курсу першапачатковай школы да 3-4 мес., выданьне спэцыяльнага часопісу—падручніка для гэтай школы і г. д.

Некаторая дыскусія разгарэлася вакол пытаньня аб школе-перасоўцы.

Шэраг таварышоў: Ляхаў (Мазыр), Асмалоўскі (Ворша), Гарбатаў (Барысаў), Ашаровіч (Гомель), Грышукоў (пропгрупа ЦК УсеКП(б)) выказваюцца за захаваньне перасоўкі на наступны год.

«Мне здаецца, што працаўнік пропгруп ЦК бязумоўна ставіць правільна пытаньне, і ва ўмовах Беларусі, мне здаецца, нельга ні ў якім разе зусім адмовіцца ад перасовак на сёньняшні дзень, на гэты год вучобы.

Возьмем мы, прыкладна, такое становішча. У кожным раёне мы маем каля 20-50 колгасаў. Гэтыя колгасы, трэба сказаць, у пераважнасьці ня буйныя, якія мы-б хацелі мець, а зьяўляюцца дробнымі, якіх мы ні ў якім разе ня зможам абслугоўваць мясцовымі сіламі сельсаветаў, мясцовымі сіламі колгасаў у якой бы то ні было ступені. А таму пытаньне, што тут будзе захаван вытворчы прынцып, і рэальныя дасягненьні бязумоўна будуць тады, калі мы будзем мець так званыя перасоўкі, але бязумоўна прыстасаваныя да сучаснасьці» (Гарбатаў—Барысаў).

Прадстаўнік Гомелю расскавае аб тым, што па Гомельскай акрузе працавала 6 перасовак 2-х тыпаў (па праграме АПШ і ВСПШ), якія комплектаваліся з батракоў і адзіночак комуністых і далі досыць добрыя вынікі і зусім малы адсеў: запісалася 138, скончылі 135 чал.

Тав. Ашаровіч лічыць, што мы яшчэ мала чаго рабілі для ліквідацыі агульнай малапісьменнасьці сярод партыйцаў і нават нізавога актыву, сярод якога % малапісьменнасьці надта вялікі. У Гомельскай акрузе ўжылі сыстэму індывідуальных дагавораў з настаўнікамі аб ліквідацыі малапісьменнасьці паасобных таварышоў і плацілі па 15 рублёў з чалавека.

Тав. Пэўзнэр (Віцебск) высоўвае думку аб школах-комбінатах.

«У нас ёсьць прыблізна такога роду меркаваньні, што трэба будзе ў буйных, у прыватнасьці як у самым Віцебску, так і ў іншых паасобных гарадох (Гомель) і г. д. будаваць на буйных прадпрыемствах, дзе ёсьць 2-3 тысячы і больш рабочых (а ў нас такія прадпрыемствы ёсьць) комбінаты (навучальныя ўстановы), аб'яднаўшы пад адзіным кіраўніцтвам як двухгадовыя школы, так і пачатковыя—3-4 месячныя школы, комсамольскія школы; даць туды аднаго зусім аслабанёнага ад іншай працы, а ў выпадку патрэбы—2-3, калі там будзе шмат работы. Гэтую работу можна было-б як належыць разгарнуць, і ад гэтага чалавека была-б магчымасьць запатрабаваць дапамогі, каб гэта работа праводзілася правільна».

Тав. Грышукоў (пропгрупа ЦК УсеКП(б)) выказваецца за абавязковае ўвядзеньне элемэнтаў тэхнічных ведаў у сетку партасьветы.

«Калі ў Мазыры з восені адчыняюцца дзьве машына-трактарныя станцыі, і калі мы разгарнем школы пры зацікаўленасьці шофэраў, трактарыстых і інш., калі мы ня ўвяжам гэтай праграмы з кваліфікацыяй, гэта будзе няправільна і створыць няўвязку. Трэба памятаць, што ў асноўным трэба працаваць па праграме гэтых школ, але, улічваючы яе трохмесячны тэрмін, можна нават за кошт паўмесячнай ці месячнай работы зрабіць спробу ўвязаць гэтую політычную праграму з практычнай работай па

ўзьняцьцю кваліфікацыі гэтых слухачоў, і рабочыя на гэта пойдуць са здаваленьнем. Дзякуючы гэтай ўвязцы рабочыя будуць больш уцягнуты ў палітычную вучобу».

Шэраг таварышоў выказваецца за неабходнасьць стандартызацыі програм ВСПШ. «У нас пад саўпартшколай рознае разумеюць. У Маскве, напрыклад, у адзінай школе выкладаецца арытмэтыка, гэта называецца вячэрняя саўпатшкола, а ў нас зусім іншае. У нас мы маем па выбару адзін палітпрадмет, апрача абавязковага—беларускай мовы і бягучай палітыкі для ўсіх» (Ашаровіч—Гомель).

Як стаіць справа з марксыцка-ленінскай вучобай партыйнага актыву?

Большасьць таварышоў констатуе, што актыў амаль не працуе над сабой. І гэта пры досыць нізкім палітычным узроўні, што асабліва выявілася ў час апошніх «перагібаў» на вёсцы.

Вось які факт прыводзіць тав. Грышукоў (пропгрупа ЦК УсеКП(б))

«На партыйнай нарадзе мы мелі выступленьне кіраўніка аднэй з раённых коопэрацыйных організацый, які выказаў думку, што кулакоў у нас няма, мы іх раскулачылі, а адсюль і загатоўкі рабіць і контрактацыю амаль што не прадстаўляецца магчымым... Гэты таварыш сарваў на гэтай нарадзе воплескі, але гэтага мала, ён спровакаваў і кажа, што гэта ленінская пастаноўка пытаньня, а адсюль зараз загатаўляць няма чаго, бо ў бедняка або серадняка шмат не загатовіш».

Тут палітычная блытаніна яскрава пераходзіць у правы ўхіл.

У чым прычыны таго, што актыў не працуе над сабой? Асноўнае, вядома, перагружанасьць. Пастановы ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б аб стварэньні належных умоў для падліку актыву сыстэматычна ня выконваюцца. Актыў не выкарыстоўвае нават і сваіх выходных дзён.

Якія формы вучобы актыву сябе апраўдалі?

Самаадукацыя, завочная вучоба ў асноўным правалілася. Дэкадны комвуз у Менску і Гомлі сябе не апраўдалі і далі вялікі адсеў, мелі надта цякучы склад слухачоў.

Таварышы прапануюць замяніць дэкадны комвуз сыстэмай эпізодычных лекцый для актыву, асабліва ў раёне (Ашаровіч—Гомель), або рэорганізаваць комвуз па «цыклеваму» прынцыпу, гэта ёсьць, каб у комувзе слухач, скончыўшы ВСПШ, паглыбляў свае веды толькі па аднаму прадмету (Пэўзнэр—Віцебск).

У Гомлі на вячэрнія курсы партактыву таварышы «вылучылі» сэкратароў буйных вытворчых ячэек, дырэктароў буйных прадпрыемстваў. Гэта забясьпечыла заняткі дзевяць раз у месяц (па вечарох).

Вопыт апраўдаўся, ня гледзячы на ўсе прароцтвы, што гэта справа ня выйдзе.

Мы гэтых слухачоў сыстэматычна знаёмілі з зачыненымі пытаньнямі, стэнограмамі конфэрэнцый і г. д. Праводзіліся заняткі па ленінізму, курс быў працягнуты да канца году. Мы таксама там вывучалі бел. мову. Хацелі яшчэ ўвесьці тэму «партбудаўніцтва», але ня ўвялі.

Такім чынам, я лічу, што практыка вячэрніх курсаў партактыву сябе апраўдала, прыблізна, з такой програмай: стрыжань—ленінізм, бягучая палітыка. Асноўнае—падбор і забясьпечаньне кіраўніцтва адпаведнай якасьці. (Ашаровіч—Гомель).

Па прыкладу Цэнтральнага дому партасьветы ў Гомлі таксама організавалі летні дом вучобы актыву.

«Прапусьцілі 40 чал.—адну групу ў 20 і зараз прапускаем другую групу. Гэта група займалася месяц, праводзіла заняткі па ленінізму, эканомічнай палітыцы і бягучай, а таксама займалася пытаньнем практычнага будаўніцтва. Група сэкратароў ячэек езьдзіла ў Маскву і знаёмілася з гэтым пытаньнем і будзе нам аб усім дакладваць». (Ашаровіч—Гомель).

Цалкам апраўдалі сябе і кароткатэрміновыя курсы ячэйковага актыву, якімі ў Гомлі было ахоплена каля 30 чалавек.

Большасьць таварышоў выказваюцца аб неабходнасьці стварыць рашучы пералом у справе тэорытычнай вучобы актыву, забараніць работу ў выходныя дні, стварыць тыя ўмовы для вучобы, якія прадугледжаны пастановамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Найбольшыя надзеі таварышы ўскладаюць на курсавыя формы і на работу дома партактыву. Тав. Грышукоў (прогрупа ЦК УесКП(б)) прапануе ўсю курсавую перападрыхтоўку актыву, асабліва вясковага, перанесьці на зіму таму, што ад гэтай перападрыхтоўкі ўлетку, ва ўмовах вёскі, няма ніякага сэнсу, бо тут перашкаджаюць пасеўная, уборачная кампаніі і г. д. «Атрымоўваецца так, што ці не зьбірацца на гэтыя заняткі, ці адным вокам глядзець на перападрыхтоўку і вучобу, а другім—на тую вёску, з якой яны прыехалі».

Як стаіць справа з прапагандысцкімі кадрамі? Пропагандыст наш некваліфікаваны і ня мае магчымасьці кваліфікавацца. Шэраг таварышоў (Баброў—Шчыцько—Бабруйск, Смалякоў—Гомель) і іншыя скардзяцца на цякучасьць складу пропагандыстых. Пропагандыст або бяжыць сам на другую работу, або яго перакідваюць на другую работу.

Грышукоў (пропгрупа ЦК УсеКП(б), Гарбатоў (Барысаў) прапануюць пасьля ліквідацыі акруг забараніць раёнам перакідваць пропагандыстых на другую работу без дазволу ЦК.

Проблема рабочага пропагандыстага дагэтуль яшчэ ня вырашана. Толькі ён скончыў курсы, як ужо або ад'яжджае ў вёску, у ліку 25.000, або вылучаецца на кіруючую работу.

Цягі ж у СПШ і комвуз, якія даюць нам асноўныя пропагандысцкія кадры з боку рабочых няма. Усім хочацца ў ВТНУ.

«...Яшчэ маем і тое, што пропагандысту не хапае часу для таго, каб ён мог працаваць, бо ячэйка ня лічыцца з нагрузкай па гэтай лініі і з свайго боку нагружае, і такім чынам зусім няма часу ісьці ў школу. Мы маем пастанову ЦК УсеКП(б) аб тым, што пропагандысту, апрача выходнага дня, павінен выдзяляцца дзень для таго, каб можна было рыхтавацца, але на практыцы атрымоўваецца, што няма ня толькі гэтага дня, але ніколі не даецца і выходнага дня. Тав. Канакоцін тут гаварыў, што трэба прыцягваць да адказнасьці тых, якія не даюць выходных дзён, а ў нас атрымоўваецца, што выносяць вымову за тое, што бяруць выходны дзень» (Жураўлёў).

Неабходна зрабіць рашучы пералом у справе падрыхтоўкі рабочых пропагандыстых неабходна выкарыстаць на проп. рабоце старыя партыйныя кадры. Як стаіць справа з мэтодычным кіраўніцтвам работай пропагандыстых?

Выступаўшыя ў спрэчках скардзяцца на слабое кіраўніцтва з боку культпропу ЦК, на тое, што розныя мэтодычныя матар'ялы, распрацоўкі і г. д. атрымліваюцца на месцах са значным спазьненьнем. Дагэтуль няма распрацовак па XVI партзьезду.

Як працавалі сэмінарыі пропагандыстых? У большасьці вясковых раёнаў іх ня было. У гарадох справа стаяла лепш.

Вось што расказвае тав. з Гомеля аб працы сэмінарыяў пропагандыстых:

«Мы праводзім дзённыя сэмінарыі, зьнімаем пропагандыстых з работы, аплачваем гэта (прыблізна адзін раз у два тыдні на цэлы дзень). Будуем програму сэмінарыяў у адпаведнасьці з магчымасьцямі—тэмы распрацоўкі чарговых задач (консультацыя), а калі магчыма—праводзім самастойную работу, потым разьбіраем чарговыя пытаньні бягучай політыкі і, урэшце, разьбіраем стэнограмы». (Ашаровіч—Гомель). У Гомлі была спроба організаваць работу з вясковымі пропагандыстымі шляхам скліканьня нарад у акрузе.

«У гэтым годзе склікалі 5 разоў сэмінарыі—конфэрэнцыі вясковых пропагандыстых. У нас было такіх 5, ці нават 6 нарад. Зразумела, мы там вялі не чарговыя заняткі, бо гэта рабіць няма сэнсу, а прапрацоўвалі асноўныя пытаньні бягучай політыкі, як, напрыклад, аб барацьбе з нацыянал-дэмократызмам, аб яго карэньнях і г. д. Гэтае заняло ў нас паўдня. Потым мы яшчэ наладжвалі гутаркі з сэкратаром акруговага комітэту ці з оргаддзелам і, апрача таго, заслухоўвалі інформацыю з месц па асобных пытаньнях» (Ашаровіч—Гомель).

У Мазырскай акрузе, акрамя раённых нарад пропагандыстых, яшчэ вялі куставыя нарады пропагандыстых, «пра-

працоўваючы на іх больш буйныя пытаньні бягучай політыкі, і,улічваючы слабасьць кадраў пропагандыстых, дапамагалі распрацоўваць некаторыя праграмныя пытаньні» (Грышукоў—пропгрупа ЦК УсеКП(б)).

Тав. Эпштэйн выказваецца аб тым, што пропгрупы ЦК КП(б)Б, якія, бязумоўна, трэба арганізаваць, павінны працаваць у раёне не па 2-3 тыдні, як прапанаваў тав. Канакоцін у дакладзе, а больш працяглы тэрмін. Нельга абмяжоўвацца толькі друкаваньнем мэтодпрапрацовак у «Партработніку», неабходна друкаваць іх паасобнымі выпускамі і тэрмінова рассылаць раёнам.

Як працуюць дамы комасьветы і партгабінэты? Шэраг таварышоў скардзяцца на адсутнасьць кіраўніцтва з боку цэнтральнага дому комасьветы работай партгабінэтаў, нават па Меншчыне не адчуваецца работа дому. Наогул дом комасьветы асноўную сваю работу праводзіў толькі ў горадзе. Сетка партгабінэтаў па БССР досыць слабая, толькі ў Гомельшчыне і Бабруйшчыне арганізаваны габінэты ва ўсіх раёнах. Ёсьць дамы комасьветы ў Бабруйску, Рагачэве, Слуцку. Асноўны недахоп іх—адсутнасьць падрыхтаваных работнікаў. Неабходна правесьці курсы работнікаў партгабінэтаў.

Наглядаецца шэраг недахопаў у вучобе комсамолу, недахоп і слабая кваліфікацыя пропагандыстых, значны адсеў і г. д. Але асноўнае, на што скардзіліся выступаўшыя таварышы,—гэта недастатковая ўвага з боку парторганізацый да пытаньняў комсамольскай вучобы.

Мы маем яшчэ шэраг недахопаў у справе беларусізацыі партыйнай вучобы, асабліва ў ВСПШ, дзе няма дастатковай колькасьці падручнікаў на белмове. Недастаткова разгорнута работа на мове нацмен. Тав. Грышукоў (пропгрупа ЦК УсеКП(б)) перадае наступны анэкдотычны факт.

«Мы, напрыклад, маем па аднаму з дэлегацкіх пунктаў Жыткавіцкага раёну такое зьявішча, калі пункт яўрэйскі, а туды высоўваецца для кіраўніцтва татарын. Гэты татарын казаў, што ён прыходзіць і сядзіць, а работа вядзецца ў гэты час на яўрэйскай мове. Але ён сказаў ім, што калі вы чаго-небудзь не зразумееце, вы перакладзеце мне на расейскую і беларускую мову, і я вам тады рстлумачу. Вось вам прыклад таго, як вядзецца работа дэлегацкага пункту ў Жыткавіцкім раёне».

Я. Галінчэнка

# Роля і задачы партгабінэтаў у сыстэме партыйнай вучобы

Сучасны момант соцыялістычнага будаўніцтва, абвастрэньне барацьбы на два фронты, барацьба за прамфінплян і перабудову с. г. патрабуюць цясьнейшай ўвязкі тэорыі марксызму-ленінізму з практыкай перабудовы работы партыйных, профэсіянальных і інш. організацый і тым самым патрабуюць значнага павялічэньня ролі партгабінэтаў у справе партпропаганды і агітацыі.

У паасобных організацыях партгабінэты сталі на шлях паляпшэньня свае работы, але ў большасьці організацый існуе яшчэ вялікая недаацэнка значэньня партгабінэтаў. Існуюць якія-та хаткі ці куткі, якія працуюць ці не працуюць, якія зачынены альбо наведваюцца выпадкова, альбо ня тымі, на якіх разьлічаны габінэты. Працаўнікоў, вылучаемых на працу ў партгабінэтах, перакідваюць на другую працу. У Рагачэве дом комасьветы ў апошні час стаіць зачынены, у Менскай акрузе пастанавілі організаваць 4 партгабінэты, а організавалі пакуль адзін, у Віцебску ёсьць 7 габінэтаў і «толькі на паперы». Полацак паведамляе, што «ніякай рэальнай дапамогі вучобе ад габінэту няма» і г. д.

Габінэты да гэтага часу былі бяспритульнымі—такі найбольш агульны малюнак становішча гэтай працы.

Калі мы прагледзім тэндэнцыі ў разьвіцьці габінэтаў, дык знойдзем 2 лініі: адна лінія—«ліквідатарская», на ператварэньне габінэтаў у простую бібліотэку, дзе можна было-б прыйсьці, пачытаць, пасядзець і толькі.

Другая лінія—«імпэрыялістычная», накіраваная на ахапленьне і падмену сабой апарату і кіраўніцтва культпропаў, на сконцэнтраваньне ў сабе ўсяго мэтодычнага кіраўніцтва і г. д. Зразумела, што ні адну з гэтых тэндэнцый мы ня можам падтрымаць. Праўда ляжыць дзесь у сярэдзіне, і змагацца як супроць «ліквідатарства», так і супроць аслабаненьня ад парткіраўніцтва, бязумоўна, неабходна.

Дзе знаходзіцца гэтая праўда? Габінэт павінен быць асноўным прывадным пасам, аднэй з асноўных баз усяе культпроппрацы, але ён не павінен замяняць сабой апарату культпропу. Вельмі шмат працы ў галіне пропаганды мы можам і павінны праводзіць праз габінэты, і тым, што мы не скарысталі ў поўнай меры габінэты, мы толькі паменшылі якасьць культпроправоты.

Па-першае, чаму-б не праводзіць сэмінарыі, інструкцыйныя даклады ў памяшканьні агітпропгабінэту, у якім сконцэнтравана шмат каштоўнага матар'ялу?

Па-другое, габінэт павінен быць лябораторыяй па вывучэньню практыкі і выпрацоўкі новых форм работы, па паляпшаньню якасьці ўсяе нашай работы. Да сучаснага моманту гэтыя габінэты такой лябораторыяй ня былі.

Ставячы перад сабою такую задачу ў разгортваньні габінэтаў, мы зможам дэталізаваць, конкрэтызаваць наступныя моманты.

1. Возьмем асноўную задачу габінэтаў—агітацыю за партвучобу. Гэтая агітацыя можа выяўляцца ў самых рознастайных формах (плякаты, якія растлумачваюць розныя формы вучобы, популярызуюць сетку партасьветы ў раёне, або на падпрыемстве, лёзунгі і інш.). Гэтыя плякаты не павінны быць вывешаны з восені і вісець цэлую зіму. У процэсе работы зьмяняецца сетка школ, утвараецца новая, таму павінна быць захавана злободзённасьць агітацыі. Афармленьне агітацыі павінна быць мастацкім. Габінэт павінен даваць кіраўніцтва,

павінен сам праводзіць клюбныя вечары вучобы, альбо вылучаць таварыша для правядзеньня. У габінэце мы павінны знайсьці прыклады і спосабы організацыі політбаёў, пытальнікі на розныя тэмы і для розных школ, спосабы організацыі політгульняў, афармленьне гэтых політгульняў у выглядзе модэляй. Вельмі часта ў практычнай рабоце даводзіцца сустракацца з тым, што тое ці іншае прадпрыемства ці колгас організоўваюць вечар вучобы, але ня ўмеюць яго зрабіць масавым, жывым, вясёлым, мастацкім, цікавым, агітуючым за вучобу. У большасьці «вечар» складаецца з дакладу і мастацкай часткі. Апошнюю глядзяць з задавальненьнем, а на дакладзе «сьпяць». Габінэту трэба мець найбольш прыймальныя інсцэніроўкі для гэтых вечароў за вучобу.

2. Аб непасрэднай дапамозе партвучобе. Формамі гэтай дапамогі зьяўляюцца: а) консультацыі займаючыхся самаадукацыяй, актыву, прапагандыстых, дакладчыкаў; б) рэцэнзіі на работы завочнікаў; в) сэмінары і.

Да гэтага часу сэмінарыі амаль ніколі не праводзіліся праз агітпропгабінэты, аднак найбольш мэтазгодна праводзіць іх іменна праз габінэты. Загадзя можна даць заданьне партгабінэту, каб ён падрыхтаваў адпаведныя дыяграмы, матар'ялы і г. д. з тым, каб правядзеньне сэмінарыя ў гэтым габінэце давала больш здавальняючыя вынікі па зьместу і па мэтодыцы.

3. Дасьледчая работа. У «Правде (24/XI-29 г.), у артыкуле т. Крупскай «Што трэба ведаць культработніку», ёсьць надзвычай добрыя паказаньні на тое, што павінен ведаць кожны культработнік у сваёй рабоце. Крупская паказвае, што неабходна ведаць гісторыю свайго прадпрыемства, соцыяльныя праслойкі на ім, соцыяльную фізыономію рабочых на прадпрыемстве, становішча абсталяваньня цэхаў, поўны твар прадпрыемства, яго тэхніку і жывы склад, каб парт. і культработа была пастаўлена не наогул, а была дыфэрэнцыявана па соц. праслойках і па кваліфікацыі рабочых. Агітпропгабінэт павінен організаваць зьбіраньне гэтага матар'ялу, павінен распрацоўваць ужо сабраны матар'ял па таму ці іншаму прадпрыемству ці колгасу. Габінэт або хата-чытальня на сяле павінны распрацоўваць гісторыю колгасу, клясавай барацьбы навакол колгасу, ліквідацыі кулацтва, павінны вывучаць бюджэты аднаасобных гаспадарак і гаспадарак колгасьнікаў.

Толькі агітпропгабінэт, куды сьцякаюцца ўсе матар'ялы па рабоце прадпрыемстваў гораду, сяла або раёну, можа выканаць гэту задачу. Гэта, па сутнасьці, дасьледчая работа мае ня толькі мясцовае, але і ўсесаюзнае значэньне.

4. Экскурсіі на вытворчасьць.

Партгабінэт павінен скласьці апытальнік для экскурсантаў, каб экскурсія была ня простай цікавасьцю.

5. Лекцыі і даклады. Лекцыі павінны быць злободзённыя, на бягучыя тэмы, могуць быць абагульваючыя тыя або іншыя пройдзеныя аддзелы. Трэба сачыць за жыцьцём прадпрыемства, за політыкай партыі, і тады практыка пакажа, як, хто, калі і для чаго праводзіць лекцыі.

6. Удзел партгабінэту ў самаадукацыі і завочнай адукацыі. Возьмем такія віды, як завочны комвуз, завочная саўпартшкола. Комвуз або СПШ даюць рэцэнзіі на ўжо гатовыя работы завочнікаў. За самым процэсам работы завочніка яны ня могуць сачыць. Партгабінэт павінен даваць первястковую і пасьлядоўную вусную консультацыю па мэтодыцы работы з кнігай, складаньня запісаў, тэзісаў. Габінэт павінен даваць рэцэнзіі і консультацыі па первястковых зьвеньнях політвучобы (гурткі самаадукацыі, адзіночкі па розных прадметах). Габінэт павінен аб'яднаць навакол сябе завочнікаў, праводзіць з імі нарады, вечары «змычкі» з узаемным абменам практыкай.

Гаворачы аб задачах габінэту, мы ня спыняемся на розным складзе тых, каго габінэт абслугоўвае. Але, само сабой зразумела, што работа габінэту павінна быць прыстасавана да гэтага складу (партработнікі, комсамол, профработнікі, вайскоўцы і інш.).

Комсамол. габінэты павінны задавальняць нароўні з парторганізацыямі, і ў аддзеле партвучобы ні ў якім выпадку ня меншую долю павінна займаць комсамольская вучоба.

Тое-ж самае і з Чырвонай арміяй. Напрыклад, у Бабруйску командзіры і чырвонаармейцы наведваюць дом комасьветы больш, чым іншыя партработнікі. Гэта павіна прымусіць Бабруйскі дом комасьветы павярнуцца больш тварам да Чырвонай арміі, каб адпаведныя пытаньні больш выпукляліся ў яго рабоце. Ня трэба пры гэтым забывацца на ролю Чырвонай арміі ў социялістычным будаўніцтве (шэфства над колгасамі, работа адпускнікоў і дэмобілізаваных і інш.).

Мы ўжо гаварылі аб дасьледчай рабоце габінэту ў галіне практыкі соцыялістычнага будаўніцтва на сяле, у горадзе, але габінэт павінен зьбіраць і апрацоўваць матар'ялы па практыцы самой вучобы. Мы да гэтага часу ня маем добрых падручнікаў па мэтодыцы, ня гледзячы на тое, што практыка па партасьвеце ў нас досыць вялікая. Мы не вывучаем уплыву школ на жыцьцё прадпрыемства, на рост партыі, на работу масавых організацый, не вывучаем практычную работу слухачоў.

Неабходна вывучэньне розных соцыяльных праслоек у рабочай масе, у калгаснай масе, каб у адпаведнасьці з іх запатрбаваньнямі, з іх розным падыходам да вырашэньня тых ці іншых пытаньняў мы маглі пабудаваць наша выкладаньне і нашы падручнікі. Сэзоньнікі, новыя рабочыя, нексаліфікаваныя, моладзь, старыя кадравыя рабочыя, чырвонаармейцы па рознаму рэагуюць на тое ці іншае політычнае пытаньне. Як выкладаць, што трэба выпукліць у выкладаньні, што паставіць на першым пляне, што на другім—да гэтага часу гэтыя пытаньні асьветлены зусім недастаткова, ва ўсякім выпадку не ўвайшлі ў практыку нашае пропаганды.

Самакрытыка ў пропагандзе. Характэрна, што тыя ці іншыя мэтодычныя памылкі і па зьместу ў рабоце нашых школ зьяўляюцца здабыткам толькі нарад. Мы на нарадах раённых, акруговых і рэспубліканскіх прыводзім у якасьці анэкдоту тыя ці іншыя памылкі тае ці іншае школы, а непасрэдна ў самой школе, там, дзе гэтыя памылкі рабіліся, сярод тых, хто быў афярай гэтых памылак, самакрытыкі мы ня бачым. Гэта мае вялікае значэньне. Самакрытыку трэба прасунуць у самую работу школ, хаця-б у такім выглядзе, як прачытваньне протоколаў абсьледваньня ў самых школах, абгаварэньне мэтодаў выкладаньня і інш. Гэта падвышае ўвагу слухачоў да таго, што гаворыць кіраўнік, гэта падвышае адказнасьць кіраўніка, прымушае яго лепш падрыхтавацца і гэтым самым паляпшае якасьць вучобы. Лічаць, што сказаць аб тых ці іншых хаця-б грубых памылках кіраўнікоў у школе—гэта значыць панізіць яго аўторытэт і гэтым самым сказаць, што ён няпрыгодны. На справе слухачы і самі ведаюць недахопы свайго кіраўніцтва, але маўчаць, церпяць і... бягуць са школы. І кіраўнік ведае, што яго ня вельмі разумеюць і ня вельмі слухаюць, але нічога ня робіць. Без узаемнай крытыкі ні слухачы ні кіраўнік не пасоўваюцца ўперад. Вывучэньне тыповых памылак мэтодычных і па зьместу, іх выпраўленьне павінна быць наладжана праз габінэт.

Пытаньні соцспаборніцтва ў партасьвеце, пытаньні беларусізацыі нашых школ, работа школ на іншых нац. мовах—усё гэта патрабуе вывучэньня з тым, каб адпаведным чынам зьмяніць якасьць і формы нашай работы.

Партгабінэт павінен абслугоўваць партыйны, профэсіянальны, комсамольскі, колгасны актыў і ў яго непасрэднай практычнай рабоце, а ня толькі па лініі вучобы.

Габінэты партработы на вытворчасьці павінны сконцэнтраваць сваю ўвагу на барацьбе за прамфінплян прадпрыемства, пропагандуючы вышэйшыя формы соцспаборніцтва і ўдарніцтва (опэратыўна-плянавыя групы, скразныя ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір і інш.), шляхам распрацоўкі матар'ялу свайго прадпрыемства і перанясеньня лепшай практыкі іншых прадпрыемстваў, шляхам вуснага інструктажу пропагандыстых групавых агітатараў і актыву.

У цэнтры ўвагі вясковых партгабінэтаў павінны быць пытаньні соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і чарговыя задачы ў гэтай галіне: уборачная, пасеўная кампанія, асабліва ў колгасах і саўгасах, організацыя працы і вытворчасьць ў саўгасе і колгасе, проблема жывёлагадоўлі, тэхнічных культур, уздым культурна-політычнага ўзроўню колгасьнікаў, беднякоў і серадняков-адзінаасобнікаў.

Плян работы ячэйкі, заўкому, работа ў цэхах, брыгадах, работа добраахвотных організацый, клюбу, ход соцспаборніцтва на вытворчасьці—усё гэта павінна знайсьці адбітак у рабоце габінэту. Габінэт не падмяняе адпаведных організацый, а толькі дапамагае ім у рабоце, вывучае практыку гэтае работы.

Гэта практыка ляжыць у протоколах пасяджэньняў, сходаў і ў пытаньнях па дакладах, у галаве сакратара ячэйкі, культпропу і г. д. Работнікі ўходзяць, протоколы ляжаць у пыле, прыходзяць новыя работнікі і зноў робяць старыя памылкі. Задачы габінэту—зьбіраць крупінкі каштоўнай практыкі, расьсеянай сярод групы папер і ў замарыўшыхся галовах работнікаў, распрацоўваць гэту практыку і рабіць яе жывой зброяй палепшаньня работы. Сродкі работы тут такія-ж, што і ў галіне пропаганды.

Абсталяваньне габінэтаў вызначаецца задачамі работы (бібліотэчка-даведнік, пытальнікі, мэтод распрацоўкі, вітрыны, дыяграмы, модэлі розных гульняў і г. д.) трэба спыніцца на радыё. Радыё ў партпропагандзе ва ўсёй партыйнай рабоце трэба скарыстоўваць.

Трэба паставіць пытаньне аб тым, каб у кожным райпарткоме і агітпропгабінэце быў радыёпрыемнік. Мы зможам тады па радыё атрымаць у час мэтодраспрацоўкі розныя паказаньні, радыёлекцыі. Трэба паставіць пытаньне яшчэ шырэй.

Тэмы будаўніцтва ў нас соцыялістычныя, *а сувязь дапатопная*. З гэткай сувязьзю працаваць нельга. Гэтай зімой у сувязі з колектывізацыяй і ліквідацыяй кулацтва тэлеграфны спосаб сувязі выцісnуў усе апошнія. А ці-ж зараз у нас менш важныя пытаньні? Ці-ж зараз у нас аслабанёны тэмпы работы? Ліквідацыя акругова зьвяна яшчэ больш абвастрае пытаньне сувязі.

Трэба ставіць пытаньне ня толькі аб радыёпрыемніку, але і аб радыёперадатачнай станцыі ў межах раёну, як гэта ёсьць у Клімавічах і іншых раёнах. Гурток ОДР і партгабінэты павінны быць застрэльшчыкамі ў гэтай справе.

Аб кадрах габінэту. Ясна, што тыя задачы, якія мы ставім перад габінэтамі, ня будуць ажыцьцёўлены без аб'яднаньня вакол габінэту шырокага актыву саміх «спажыўцоў» габінэту.

Прыцягненьне актыву ў парадку нагрузкі па конкрэтных заданьнях—гэта галоўнае.

Савет габінэту, складзены з прадстаўнікоў ячэйкі, заўкому і інш. організацый, мала знаёмы з работай габінэту; гэты савет прыходзіць толькі на паседжаньні і таму непатрэбен. Што датычыцца самакрытыкі ў рабоце габінэтаў, то тут найлепшым сродкам выпраўленьня работы, палепшаньня яе зьяўляюцца справаздачы габінэтаў на сходах тае масы, якую габінэт павінен абслугоўваць.

Аб сувязі паміж габінэтамі і кіраўніцтве імі.

Агульна-політычнае кіраўніцтва належыць тым партыйным організацыям, на тэрыторыі якіх знаходзіцца сам габінэт. Кіраўніцтва мэтодычнае і дапамога ў рабоце павінны ажыцьцяўляцца па вэртыкальнай лініі: партгабінэт раённы —над габінэтамі прадпрыемстваў і дом Комасьветы культпропу ЦК КП(б)Б над раённымі партгабінэтамі.

Трэба ўвесьці ў практыку нарады і курсы-конфэрэнцыі работнікаў партгабінэтаў.

Трэба павялічыць сетку раённых габінэтаў і дамоў комасьветы ў гарадох.

Мэтазгодна організаваць цэнтральныя курсы, прыблізна, на 40-50 чал. для падрыхтоўкі работнікаў партгабінэтаў.

Галоўнае ў рабоце—гэта не замыкацца ў габінэты, а зьвязацца з жывым жыцьцём, прыцягнуць актыў да зьбіраньня і апрацоўкі матар'ялаў.

Адзначаючы скарыстаньне работнікаў не па спэцыяльнасьці, трэба палаяць і саміх габінэтчыкаў. Часта гэта толькі адмаўленьне, што іх скарыстоўваюць не па назначэньню, гэты пункт погляду «стрелочника». Партыец—ня стрэлачнік, ён актыўны, сьвядомы праваднік лініі партыі, трэба ў першую чаргу самім адказваць за работу габінэтаў.

Калі ў вёску паслаць няма каго, акрамя габінэтчыка, то гэта паказвае дрэнную работу самога габінэту. Калі работа зрываецца з-за месячнага адсутнічаньня аднаго работніка, то гэта паказвае, што ў габінэце няма актыву, г. зн., паказвае зноў-такі на кепскую організацыю габінэту. Добрая праца зьяўляецца лепшым сродкам барацьбы супроць недаацэнкі партгабінэтаў.

# ПРАПРАЦОЎКА XVI ЗЬЕЗДУ ЎсеКП(б).

## Заўвагі пропагандыста

Звычайнымі недахопамі *прапрацоўкі пастаноў партыі зьяўляюцца:*

*а) шпаркасьць і павярхоўнасьць* гэтай прапрацоўкі: слухачы ня столькі прапрацоўваюць, колькі мэханічна запамінаюць пастановы зьезду і таму ў большасьці ў цэхах, у абедзенны перапынак на сходах ня могуць правільна растлумачыць сучаснае становішча і задачы партыі;

*б) прапрацоўка ня ўвязваецца з канкрэтнымі мясцовымі і практычнымі задачамі ячэйкі,* райкому, і таму часта, на словах прызнаючы лінію партыі правільнай, на справе дапушчаюць памылкі і скрыўленьні. Гэтыя недахопы павінны быць зьнішчаны. Трэба гнацца не за хуткасьцю прапрацоўкі, а за якасьцю. Умовы гэтага наступныя:

1) *Самастойнасьць* чыткі і абгаварэньне слухачамі рэзолюцый і матар'ялаў зьезду (ляборатарны мэтод).

2) Наступная гутарка па прапрацаванаму матар'ялу.

3) Абавязковы актыўны ўдзел слухачоў у гутарцы. Трэба дабіцца, каб слухачы выступалі ў школе, вырашаючы свае сумненьні і запытаньні. Калі не ўдаецца гэтыя пытаньні вырашыць на аднэй гутарцы, то трэба перанесьці іх на наступныя заняткі, даць слухачом дадатковы матар'ял для вывучэньня гэтага пытаньня.

4) І, нарэшце, галоўная мэта прапрацоўкі—актыўны ўдзел слухачоў ва ўсім жыцьці прадпрыемства або вёскі, што дасягаецца разборам мясцовых задач і практычнымі заданьнямі слухачом. Даючы ў гэтым нумары часопісі рабочыя пляны, складзеныя па пяці тэмах: 1) прамысловасьць, 2) сельская гаспадарка, 3) профсаюзы, 4) міжнароднае становішча і 5 унутрыпартыйнае становішча, рэкомэндуецца прапрацоўваць тэмы ў гэтым парадку. Мэтавая ўстаноўка першай тэмы (аб прамысловасьці)—*давесьці неабходнасьць захаваньня і ўзмацненьня ўзятых тэмпаў індустрыялізацыі краіны,* індустрыялізацыі, якая зьяўляецца крыніцаю перабудовы ўсяе народнае гаспадаркі ў социялістычным напрамку. Ужо на гэтай падставе далей разгортваецца гутарка аб дасягненьнях і недахопах першых 2 год пяцігодкі, і даецца слухачом устаноўка *на мэтоды барацьбы за палепшаньне вытворчасьці і перавыкананьне прамфінпляну.*

Пытаньне аб харчовым снабжэньні рабочых у гэтай гутарцы закранаецца бегла толькі ў падпункце аб задачах прамысловасьці ў адносінах сельскай гаспадаркі. У тэме аб сельскай гаспадарцы рубам ставіцца пытаньне, *як дабіцца такіх тэмпаў у разьвіцьці сельскай гаспадаркі, каб ня толькі задаволіць запатрабаваньні гораду, але і ў галіне сельскай гаспадаркі дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны,* і потым паказаць, што *гэта пытаньне ўжо практычна вырашаецца на практыцы колектывізацыі і будаўніцтва саўгасаў.* Толькі дзякуючы колектывізацыі і саўгасам краіна вышла з хлебнага крызісу і гэтымі-ж шляхамі бярэцца за вырашэньне проблемы мясной, малочнай, гароднай і іншых галін сельскае гаспадаркі.

Практычнай, асноўнай устаноўкай гутаркі зьяўляецца на сяле *пытаньне будаўніцтва і замацаваньня колгасаў, разьвіцьцё жывёлагадоўлі і кармавой базы,* а ў горадзе—пытаньне аб *дапамозе колгасам і організацыі прыгародных сьвінагадоўчых, малочных і гародных саўгасаў,* палепшаньне працы коопэрацыі і інш. Задачы прапрацоўкі 3-е тэмы (аб профсаюзах)—*паказаць неабходнасьць павароту 10.000.000. масы організаванага*

*пролетарыяту-профсаюзаў тварам да вытворчасьці ў горадзе і ў вёсцы;* паказаць, што профсаюзы да гэтага часу яшчэ недастаткова зварочвалі ўвагу на вытворчасьць і рэконструкцыю сельскай гаспадаркі. Практычным вынікам гэтай прапрацоўкі павінна быць прыняцьце па школе шэрагу мерапрыемстваў па палепшаньні работы прафкому, па палепшаньні прадпрыемства, разгортваньні ўдарніцтва і правядзеньне гэтакіх мерапрыемстваў праз ячэйкі КП(б)Б, прафкомы, агульныя сходы і інш. Абгаварэньне міжнароднага становішча яшчэ раз павінна паказаць слухачом на *неабходнасьць шпарчэйшай індустрыялізацыі краіны і ўзмацненьне яе абароназдольнасьці,* трэба паказаць, што *сусьветны крызіс штурхае капіталізм да вайны, а прывядзе ён капіталістычную краіну да рэволюцыі.*

СССР зьяўляецца цэнтрам увагі ўсіх сусьветных рэволюцыйных і контр-рэволюцыйных сіл, і задачай пролетарыяту СССР (побач з другімі відамі інтэрнацыянальнай солідарнасьці—дапамога вязьням—рэволюцыянэрам, дапамога беспрацоўным, бастуючым рабочым і інш.), *асноўнай інтэрнацыянальнай рэволюцыйнай задачай савецкага пролетарыяту зьяўляецца працягваньне непаслабнымі тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва.* Тэмай аб унутрыпартыйным становішчы заканчваецца прапрацоўка пастаноў XVI зьезду. Тут праводзяцца вынікі барацьбы з ухіламі ад лініі партыі (якія ўжо закраналіся пры працоўцы іншых тэм), і ставіцца задача згуртаваньня пролетарыяту вакол партыі, узмацненьня яе шэрагаў лепшымі пралетарамі і колгасьнікамі і працягваньне бязьлітаснай барацьбы за ленінскую лінію партыі. Абгаварэньне ўсіх тэм павінна праходзіць са скарыстаньнем мясцовага матар'ялу, абгаварэньне-ж практычных пытаньняў і заданьняў слухачом павінна абгрунтоўвацца на матар'яле данага прадпрыемства, колгасу, саўгасу або сяла. Неабходна дабівацца хаця-б спачатку невялікіх, практычных вынікаў работы школы або гуртка (абсьледваньне праз слухачоў, агітацыі за ўдарніцтва, пачын у організацыі колгасу і прыгарадных саўтасаў і інш.).

У № 9-10 «Партработніка» дадзены мэтодычныя распрацоўкі па выніках XIII зьезду КП(б)Б. Калі пытаньні XIII зьезду яшчэ не прапрацоўваліся слухачамі, то яны ўвязваюцца з прапрацоўкаю XVI зьезду такім чынам, што пасьля вырашэньня прынцыповых пытаньняў аб лініі партыі абгаварэньне практычнага будаўніцтва, посьпехаў, памылак і скажэньняў, абгаварэньне чарговых задач партыі цалкам базіруецца на матар'яле БССР і мясцовай організацыі.

Важнейшым практычным вынікам прапрацоўкі рашэньняў зьезду павінен зьявіцца актыўны ўдзел слухачоў у разьмяшчэньні пазыкі «пяцігодка—у чатыры гады».

Як ужо раней паказана, раіцца ўдзяліць для кожнай тэмы ня менш двух заняткаў. На першым занятку ідзе лябораторная работа. (групавая чытка, абгаварэньне і запіс) пад наглядам кіраўніка або яго памочніка, а на другом праводзіцца гутарка.

Такім чынам для прапрацоўкі вынікаў XVI зьезду ўдзяляецца ня менш дзесяці заняткаў.

Калі застаюцца нераспрацаваныя пытаньні, якія цікавяць слухачоў, то для іх адводзяцца дадатковыя заняткі.

Гурткі па працоўцы вынікаў зьезду павінны паслужыць выходным пунктам да комплектаваньня сеткі партвучобы на зімовы пэрыод. Азнаёміўшыся са слухачамі і растлумачыўшы ім асаблівасьці тае ці іншае вучэбнай адзінкі, пропагандысты ўтварае запіс слухачоў у школы і гурткі на зімовую вучобу. Адначасова неабходна прыцягнуць саміх слухачоў да агітацыі за вучобу, да ўдзелу ў насьценгазэце, утварэньня вечара вучобы, выданьня спэцыяльнай школьнай газэты і г. д.

Толькі дасягнуўшы гэтых вынікаў, можна лічыць прапрацоўку ітогаў зьезду здавальняючай.

# Мэтод распрацоўкі

## ВЫНІКІ XVI ЗЬЕЗДУ ЎСЕКП(б)

ТЭМА І

### Выкананьне пяцігадовага пляну прамысловасьці

Рабочы плян

#### І. Посьпехі і недахопы ў выкананьні пяцігодкі ў прамысловасьці:

*а) неабходнасьць хуткіх тэмпаў індустрыялізацыі СССР* (індустр. і социялістычная рэканструкцыя ўсяе экономікі СССР, абароназдольнасьць, аслабаненьне ад чужаземнай залежнасьці, тэмпы СССР і тэмпы капіталістычных краін, пазыцыя правых ў пытаньнях індустрыялізацыі);

*б) пытаньне «хто каго» вырашана ў карысьць соцыялістычнай прамысловасьці*;

Паказальнікі індустрыялізацыі Саюзу ССР. Па тэмпах СССР пераганяе капіталістычныя краіны, па вышыні разьвіцьця яшчэ адстае. Цяжкая і лёгкая прамысловасьць, уклады капіталаў, рацыяналізацыя, непарыўка, сямігадзінны і шасьцігадзінны рабочы дзень. СССР напярэдадні ператварэньня ў індустрыяльную краіну. Пяцігодка ў чатыры гады, а ў асобных галінах у 3 і 2½ гады.

*в) недахопы ў разьвіцьці прамысловасьці* (якасьць продукцыі, сабекошт, вытворчасьць працы, недахопы новага капітальнага будаўніцтва).

#### II. Важнейшыя задачы ў прамысловасьці

*а) задачы будаўніцтва прамысловасьці* (мэталюргія і энэргетычная база, машынабудаўніцтва—ключ да рэконструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, буд. матар'ял, хэмічная прамысловасьць, цяжкая прамысловасьць, машынабудаўніцтва, трактарабудаўніцтва і абароназдольнасьць краіны;

*б) тэмпы колектывізацыі і задачы прамысловасьці* (рост патрабаваньняў сельскае гаспадаркі ў сродках вытворчасьці, машынабудаўніцтва і хэмічная прамысловасьць).

*в) задачы і разьвіцьцё экспорту і вызваленьне ад імпорту замежнай сыравіны.* Неабходнасьць разьвіцьця экспорту (лес, нафта і інш.) для хутчэйшай індустрыялізацыі. Сродкі ад экспорту для аплаты ўвозу не хапаючага абсталяваньня; узмацненьне лёгкай прамысловасьці і магчымасьць здавальненьня яе патрэб поўнасьцю савецкай сыравінай (бавоўна, шэрсьць, каўчук); разьвіцьцё харчовай прамысловасьці;

*г)тэрыторыяльнае разьмяшчэньне прамысловасьці* (індустрыялізацыя раней адсталых раёнаў і нац. рэспублік; скарыстаньне мясцовага апалу, сыравіны і інш. прыродных даных; значэньне Ўралу і Кузбасу; прамысловасьць БССР; правыя і «левыя» загібы ў пытаньнях індустрыялізацыі нац. рэспублік.

#### III. Умовы выкананьня пяцігодкі

*а) соцспаборніцтва—мэтод перамаганьня цяжкасьцяй:* спаборніцтва і пяцігодка ў чатыры гады (ўдарніцтва, новыя формы соцспаборніцтва, перабудова вытворчых нарад);

*б) палепшаньне сыстэмы кіраўніцтва і проблема кадраў:* гаспадарчы разрахунак, самастойнасьць прадпрыемства, адзінаначальле, падрыхтоўка кадраў, ФЗУ, тэхкурсы, інжынэрна-тэхнічныя кадры і скарыстаньне замежнай тэхнічнай дапамогі);

*в) рацыяналізацыя і поўнае скарыстаньне абсталяваньня* (непарыўка, павялічэньне зьмен, рацыяналізацыя, вынаходніцтва, абмен практыкай, стандартызацыя, скарыстаньне дробнай і саматужнай прамысловасьці);

*г) неабходнасьць далейшай барацьбы з ухіламі ад лініі партыі* (правыя супроць хуткіх тэмпаў індустрыялізацыі, зараўненьне «на вузкія месцы», тэмпы лёгкай прамысловасьці, «левыя» перагібы—звыш індустрыялізацыі за кошт сялянства.)

Асноўны вывад па ўсёй тэме:

«Асноўнымі ўмовамі пасьпяховай і хутчэйшай перамогі гэтых цяжкасьцяй зьяўляецца паскарэньне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і разгорнутае наступленьне на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту. Усякае паслабленьне гэтых тэмпаў у выгоду капіталістычна-кулацкім элемэнтам і паслабленьне наступленьня супроць іх азначала-б на справе не замякчэньне цяжкасьцяй, а іх падваеньне, узмацненьне позыцый клясавых ворагаў пролетарскай дыктатуры.

Капітулянцкая ўстаноўка правых па зьніжэньню тэмпаў індустрыялізацыі, прадыктаваная па сутнасьці інтарэсамі кулацкіх і капіталістычных груп, вядзе да рэстаўрацыі капіталізму».

(З рэзалюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б) па справаздачы ЦК).

### IV. Прыкладныя практычныя заданьні

1) Высьветліць, як ваша прадпрыемства выконвае свой прамфінплян, і якія недахопы наглядаюцца ў яго працы.

2) Як праходзіць работа ўдарных брыгад (параўнаць лічбы выпрацоўкі, якасьць і заробак). Ці ўсе комуністыя і комсамольцы ўдзельнічаюць у ўдарных брыгадах.

3) Набудзьце практыку новых форм ударнай работы (ўдарныя комуны, плянавыя групы).

ЛІТАРАТУРА

Даклад Куйбышава. Рэзолюцыя XVI зьезду па дакладу аб прамысловасьці і дакладу ЦК (частка аб прамысловасьці). Даклад тав. Сталіна —частка прамысловасьці. Даклад тав Кагановіча (разьдзел аб кіраўніцтве партыі ў прамысловасьці. Прамова Крыжаноўскага, даклад Арджанікідзе (разьдзел—кіраўніцтва прамысловасьцю—гэтую-ж частку рэзолюцыі па яго дакладу).

ТЭМА II

## Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі

### I. Карэнны паварот асноўнай масы сялянства на шлях соцыялізму

*а) вынікі і вурокі колгаснага будаўніцтва.* (% колектывізацыі, таварная продукцыя колгасаў і саўгасаў, вынікі вясеньняга севу, павялічэньне вытворчасьці працы і інш., перавагі колгасаў нават пры простым складаньні сялянскіх сродкаў вытворчасьці і жывёлы, абвяржэньні на справе тэорыі Троцкага і правых; замена продукцыі кулацкага хлеба продукцыяй колгасаў);

*б) прычыны павароту асноўнай масы вёскі на соцыялістычны шлях.* (індустрыялізацыя), коопэраваньне, роля саўгасаў і машына-трактарных станцый, наступленьне на кулака, організацыя беднаты і батрацтва, разгром трацкізму і правага ўхілу);

*в) усясьветнае гісторычнае значэньне гэтага павароту.* (праверка на практыцы непасрэднага пераходу ад індывідуальнай дробнай гаспадаркі да колектыўнай, соцыялістычны ўклад у сельскай гаспадарцы, новыя суадносіны клясавых сіл, пачатак ажыцьцяўленьня задачы «дагнаць і перагнаць» капіталістычныя краіны ў галіне сельскае гаспадаркі);

*г) новыя суадносіны клясавых сіл у вёсцы* (роля батрацтва і беднаты ў замацаваньні колгасаў і далейшай колектывізацыі сельскае гаспадаркі, ліквідацыя кулацтва як клясы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі).

### II. Асновы колгаснага руху і барацьба з перагібамі

*а) ленінскія прынцыпы колгаснага будаўніцтва* (добраахвотнасьць, арцель—галоўнае зьвяно колгаснага будаўніцтва ў сучасных умовах; умовы пера-

ходу да комуны, актыўнасьць колгасьнікаў, дапамога і кіраўніцтва дзяржавы);

*б) памылкі і скрыўленьні лініі партыі ў справе колектывізацыі* (адносіны да серадняка, абагуленьне жывёлы, тэмпы колектывізацыі, пераскокі ў комуну, гігантоманія, адміністраваньне, недаацэнка серадняка; сутнасьць гэтых ухілаў і памылак; памылкі ЦК КП(б)Б і мясцовых організацый у справе колектывізацыі);

*в) мерапрыемствы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па папярэджаньню і барацьбе з памылкамі і перагібамі* (антыпартыйны кулацкі характар «мамаевщины»).

### III. Чарговыя задачы ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі

*а) ажыцьцяўленьне пяцігодкі саўгаснага будаўніцтва ў 3 гады і колгаснага будаўніцтва—у два гады;* павялічэньне крэдытаў, машынабудаўніцтва, заданьні навуковым інстытутам; асаблівасьці колгаснага будаўніцтва ў БССР: жывёлагадоўля, інтэнсыўны ўхіл гаспадаркі, значны лік хутарскіх гаспадарак, мэліорацыя балотных мясцовасьцяй;

*б) унутрыколгаснае будаўніцтва* (разьмеркаваньне працы, разьмеркаваньне прыбыткаў, накапленьне, мэханізацыя); няроўнасьць у колгасе і выжываньне ўласьніцкай ідэолёгіі; неабходнасьць работы з беднатой у колгасах; стварэньне колгасных кадраў і культурнае будаўніцтва ў колгасах; неабходнасьць значнага пасіленьня працы сярод жанчын;

*в) узмацненьне падрыхтоўкі для далейшага разгортваньня колектывізацыі.* (прасьцейшыя віды коопэрацыі, роля саўгасаў і машына-трактарных станцый, наступленьне на кулака, увага колгасам, узаемаадносіны колгасьнікаў з адзінаасобнікамі);

*г) задачы снабжэньня с.-г. прадуктамі гораду і забясьпечаньне сыравінай лёгкай прамысловасьці;* вырашэньне збожжавай проблемы, як базы для разьвіцьця жывёлагадоўлі і тэхнічных культур; кармавая база жывёлагадоўлі травы, сіласаваньне); пашырэньне тэхнічных культур (бавоўна, лён, каноплі і інш.) і разьвіцьцё новых культур: каучукавыя расьліны, валакністыя і інш.

### IV. Практычныя заданьні

1. Вылічыць і параўнаць бюджэт некалькіх двароў адзінаасобнікаў і колгасьнікаў.

2. Высьветліць, якія былі памылкі ў колектывізацыі і як яны выпраўлены.

3. Азнаёміцца з разьмеркаваньнем і падлікам работы ў колгасе; параўнаць работы некалькіх колгасных двароў.

4. Вывучыць адносіны колгасу з адзінаасобнікамі.

5. Параўнаць ураджайнасьць ў колгасе і адзінаасобнікаў.

### ЛІТАРАТУРА

1. Даклад тав. Якаўлева на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б).

2. Рэзолюцыя зьезду па гэтым пытаньні.

3. Рэзолюцыя XIII зьезду КП(б) аб сельскай гаспадарцы.

4. Статут сельска-гаспадарчай арцелі.

5. Ліст праўленьням колгасаў, усім раённым і акрколгассаюзам НКЗ БССР («Зьвязда» ад 19/VII-23 г.).

6. Артыкул Мамаева («Правда» 9/VII 30 г.).

*Дадаткова для кіраўнікоў:*

СТАЛІН—«Галавакружэньне ад посьпехаў».

СТАЛІН—«Адказы таварышам колгасьнікам».

Арт. «Разьмеркаваньне прыбыткаў ў колгасах» («Правда» 23/VI-30 г.).

Арт. тав. Балціна ў газэце «Савецкая Беларусь» ад 7/VII-30 г.

### ТЭМА III.

## Задачы профсаюзаў у рэконструкцыйны пэрыод

### Рабочы плян

### I. „Тварам да вытворчасьці“—асновны лёзунг рабоце профсаюзаў

*а) чаму рэконструкцыйны пэрыод павялічвае значэньне профсаюзаў у соцыялістычным будаўніцтве* (ускладненьне задач у зувязі з соцыялістычным наступленьнем, абвастрэньне клясавай барацьбы і ўплыў клясава-варожых элемэнтаў на паасобныя зьвеньні дзяржаўнага і профсаюзнага апарату);

*б) сутнасьць трэд'юніонскай палітыкі былога кіраўніцтва ЎсеЦСПС* (праваўхілісцкая позыцыя былога кіраўніцтва ЎСеЦСПС, запамятаньне інтарэсаў вытворчасьці, адрыў ад мас, апалітычнасьць, супроцьстаўленьне профсаюзаў партыі);

*в) соцспаборніцтва—асноўнае зьвяно ў працы профсаюзаў* (апора на ўдарнікаў, вышэйшыя формы соцспаборніцтва (грамадзкі буксір, сквазныя брыгады, плянавыя групы) таварыскія суды і прэм'яваньні);

*г) пасіленьне ролі профсаюзаў у кіраваньні вытворчасьцю.* Вылучэньне старшынь вытворчых комісій і вытворчых нарад у нам. дырэктара; вылучэньне ўдарнікаў; актыўны ўдзел у складаньні гаспадарчых плянаў; узмацненьне адзінаначальля і барацьба супроць скрыўленьняў яго; падрыхтоўка кваліфікаванай рабочай сілы, падвышэньне кваліфікацыі жанчын, падрыхтоўка новых спэцыялістых і выхаваньне старых кадраў.

**II. Прафсаюзы і соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі**

а) спробы ліквідаваць профсаюзы ў вёсцы (ліквідацыя кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі; роля батрацтва ў колектывізацыі);

б) практычная дапамога ў справе колектывізацыі (25-тысячнікі, шэфства, рабочыя брыгады, падрыхтоўка новых кадраў на вёсцы);

в) перанясеньне практыкі соцспаборніцтва з прамысловасьці ў саўгасы і колгасы.

**III. Барацьба за палепшаньне матар'яльнага становішча рабочых и культурна палітычная работа профсаюзаў**

*а) зьмены ў матар'яльным становішчы рабочае клясы* (рост колькасьці рабочае клясы, памяншэньне беспрацоўя, рост зарплаты, бюджэт соцстраху, жыльлёвае будаўніцтва, 7-гадзінны і 6-гадзінны рабочы дзень, непарыўка);

*б) задачы профсаюзаў у палепшаньні становішча рабочых* (задача пры заключэньні колдагавароў; удзел у разгортваньні гародна - жывёлагадоўчых саўгасаў, сеткі сталовых; далейшы пераход на 7-гадзінны рабочы дзень і непарыўку);

*в) разьвіцьцё сьвядомых адносін да вытворчасьці—першачарговая задача ў* культурна-палітычнай працы профсаюзаў (ліквідацыя няпісьменнасьці, усеагульнае пачатковае навучаньне, выхаваньне новых рабочых, барацьба з цэхаўшчынай, рвацтвам, антырэлігійная пропаганда);

*г) інтэрнацыянальнае выхаваньне пролетарыяту;* барацьба з антысэмітызмам, шовінізмам, нац. абмежаванасьцю, падцягваньне культурна-адстаючых нацыянальных груп пролетарыяту; умовы БССР; значэньне беларусізацыі і карэнізацыі апарату, культурная праца сярод нацменшасьцяй; інтэрнацыянальныя абавязкі савецкіх профсаюзаў.

**IV. Перабудова профсаюзнай працы**

*а) асноўная база перабудовы — ударны рух:* апора на ўдарныя брыгады, цэх, зьмену, вылучэньне ў профапарат ударнікаў, ўцягненьне добраахвотнікаў у работу профапарату;

*б) недахопы профсаюзнага апарату;* недахопы сувязі з масамі, цэхавыя інтарэсы, аполітычнасьць, неабходнасьць чысткі;

*в) профсаюзная дэмократыя і самакрытыка—важнейшыя ўмовы перабудовы работы саюзаў:* конкрэтнасьць і дзейнасьць самакрытыкі; роля самакрытыкі і ўнутрысаюзнай дэмократыі ў выхаваньні кадраў, выпраўленьне памылак і папярэджаньне адрыву апарату ад мас;

*г) неабходнасьць палепшаньня парткіраўніцтва профсаюзамі:* большая сувязь с профсаюзамі, дапамога партработнікамі, конкрэтнасьць кіраўніцтва.

**V. Практычныя заданьні**

1. Ці даведзены ў вас вытворчы плян да цэху і як ён выконваецца?

2. Высьветліць, якую работу вядуць сябры профсаюзаў на вёсцы (брыгадзіры) і інш.

3. Як фабком удзельнічае ў барацьбе за падвышэньне рэальнай заработнай платы (сталоўка, саўгасы і інш)?

4. Як праходзіць у вас падпіска на пазыку—«пяцігодка ў чатыры гады» і што трэба рабіць для пасіленьня падпіскі?

ЛІТАРАТУРА

1. Даклад Шверніка на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б).

2. Рэзолюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду аб профсаюзах.

3. Спрэчкі па дакладу Шверніка.

ТЭМА IV

## Міжнароднае становішча і задачы партыі

### I. Сусьветны капіталістычны крысіс

*а) асаблівасьці 3-га пэрыоду пасьля разьвіцьця ваеннага капіталізму* (па пастановах X пленуму ВККІ) і разнагалосьсі з правымі (тэорыя арганізаванага капіталізму);

*б) лічбовыя паказальнікі аб разьвіцьці прамысловасьці і сельскае гаспадаркі* ў галоўных капіталістычных краінах (Амэрыка, Ангельшчына, Францыя, Нямеччына, Польшча);

*в) прычыны крызісу* (супярэчнасьці паміж вялізарным ростам вытворчых сіл і абнішчаньнем мас пры капіталізьме); сусьветны характар крызісу; супаданьне прамысловага крызісу з аграрным; сучасны экономічны крызіс праходзіць ва ўмовах агульнага заняпаду капіталізму, уздыму рэволюцыйнага руху ў капіталістычных краінах і колёніях.

### II. Абвастрэньне супярэчнасьцяй капіталізму

*а) супярэчнасьці паміж галоўнейшымі капіталістычнымі краінамі* (рынкі збыту тавараў, барацьба за сыравіну, вываз капіталаў), асабліва паміж Ангельшчынай і Паўночна-Амэрыканскімі Злучанымі Штатамі;

*б) абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж краінамі пераможцамі і пераможанымі* (Нямеччына і плян Юнга);

*в)рэволюцыйны рух у калёніях* (Індыя, Чырвоная армія ў Кітаі);

*г) унутраныя супярэчнасьці капіталізму* (буржуазія—пролетарыят, капіталістычная рацыяналізацыя, зарплата, рабочы дзень, беспрацоўе);

*д) перарастаньне экономічных боек пролетарыяту ў політычныя:* фашызацыя буржуазных дзяржаў; політычнае выступленіе пролетарыяту (1-е мая, 1-е жніўня і 6-е сакавіка).

Перарастаньне соцыял-дэмократыі ў соцыял-фашызм (тэорыя «прамысловага міру», «вытворчая дэмократыя»);

*е) паварот мас да комунізму і задачы компартыі:* выкрыцьцё соцыял-фашызму; барацьба на два фронты ўнутры компартый; ачышчэньне ад опортуністых.

Пераход ад пропаганды і агітацыі да самастойнага кіраўніцтва масамі. Кіраўніцтва стачкамі, масавымі політычнымі выступленьнямі, рухам беспрацоўных; барацьба за кіраўніцтва профсаюзаў.

Вывад з другога пункту:

«Буржуазія будзе шукаць выхаду ў новай імпэрыялістычнай бойцы, а пролетарыят, змагаючыся з капіталістычнымі эксплёататарамі і ваеннай небясьпекай, будзе шукаць выхаду ў рэволюцыі» (Сталін).

### III. Супярэчнасьці паміж СССР і капіталістычнымі краінамі—вузлавыя супярэчнасьці

*а) прычыны новай хвалі паклёпаў супроць СССР:* значэньне б. Расіі, як калёніі для эксплёатацыі і рынку збыту тавараў; СССР—цэнтр рэволюцыйнага руху, крызіс імпэрыялізму, пяцігодка і колектывізацыя ў СССР, кампанія царкоўнікаў, тлумачэньне соцыял-фашыстымі прычын крызісу—савецкі экспорт;

*б) спробы міжнароднай буржуазіі зрываць выкананьне пяцігодкі экономічнай блёкадай і организацыяй унутранага шкодніцтва* (барацьба супроць савецкай нафты, запалковая монополія ў Нямеччыне, адмаўленьне ў крэдытаваньні, кампанія супроць савецкага экспорту, шахцінская справа, Лена-Гольдфільдс і г. д.);

*в) спробы ўцягнуць СССР у бойку* (Кітайскія ўсходнія чыгункі, разрыў з Ангельшчынай, замах на выбух у паўнамочным прадстаўніцтве ў Польшчы; роля Францыі ва ўзброеньні Польшчы і Румыніі);

*г) узмацненьне міжнароднай ролі СССР:* цяга асобных груп кпіталістых да гандлю з СССР; боязьнь правалу інтэрвэнцыі (ліквідацыя конфлікту на далёка-усходніх чыгунках), аднаўленьне зносін з Ангельшчынай, падтрыманьне СССР рабочымі капіталістычных краін).

Грунтоўнай небясьпекай міжнароднага становішча застаецца небясьпека бойкі супроць СССР.

### IV. Прыкладныя практычныя заданьні

1. Зрабіць выразкі з газэт аб узмацненьні падрыхтоўкі бойкі супроць СССР і растлумачыць сярод працоўных небясьпеку бойкі.

2. Зрабіць агляд работы ячэйкі Асавіяхіму.

ЛІТАРАТУРА

Даклад Сталіна на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) (частка аб міжнародным становішчы).

Даклад тав. Молатава аб міжнародным становішчы і спрэчкі.

Даклад тав. Мануільскага на XIII зьезьдзе КП(б)Б.

Рэзолюцыя XVI зьезду па дакладах т.т. Молатава і Сталіна аб міжнародным становішчы.

**ТЭМА V**

## Унутрыпартыйнае становішча

### I. Барацьба на два фронты

*а) Прычыны абвастрэньня ўнутрыпартыйнай барацьбы* (ўзмацненьне супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў і іх уплыў на няўстойлівыя элемэнты партыі);

б) правыя і «левыя» ўхілістыя—праваднікі кулацкага ўплыву на партыю; сучасныя погляды правых і «левых» на тэмпы індустрыялізацыі; правы ўхіл у практыцы колектывізацыі (тэорыя мірнага ўрастаньня кулака ў социялізм», барацьба супроць раскулачваньня, орыентацыя на «самацёк» колгаснага руху, «тэорыя аб несваячасовасьці колектывізацыі і стаўка на індывідуальныя гаспадаркі; «левыя» загібы ў колектывізацыі; злучэньне правых і «левых» у барацьбе супроць партыі);

*в) разгром правых і «левых» ухілістых;* барацьба са скажэньнямі партыйнай лініі; фракцыйная барацьба правых (вылазкі ў ячэйках у час прадзьездаўскай дыскусіі, прызнаньне правільнасьці лініі партыі на словах і барацьба супроць партыі на справе, позыцыя былых правадыроў правых на XVI зьезьдзе і ацэнка іх выступленьняў зьездам);

*г) ухілы ў нацыянальным пытаньні:* вялікадзяржаўны шовінізм, як галоўная небясьпека; ухілы да мясцовага нацыяналізму.

Сутнасьць нацыянальных ухілаў, падмена клясавай пролетарскай політыкі буржуазнай політыкай пад сьцягам нацыянальнага адзінства. Значэньне барацьбы супроць розных шовінізмаў.

### II. Узмацненьне адзінства партыі і яе чарговыя задачы

*а) Папаўненьне шэрагаў партыі і ўзмацненьне яе адзінства.* Чыстка партыі. Новы набор у партыю. Павялічэньне рабочага ядра ў партыі. Адзінадушны адпор ухілістым. Працягваньне барацьбы з правымі ўхілістымі, «левымі» загібшчыкамі і прымірэнцтвам, да ўхілаў як аснова пасыпяховага социялістычнага будаўніцтва. Узмацненьне інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных;

*б) палепшаньне кіраўніцтва масамі ў будаўніцтве прамысловасьці і сельскай гаспадаркі;* ліквідацыя акруг; перабудова партапарату і набліжэньне кіраўніцтва да цэху і брыгады (колгасу, саўгасу на вёсцы);

*в) разгортваньне самакрытыкі і ўзьняцьце політычнага ўзроўню партыі,* асабліва партыйных кадраў, узмацненьне пролетарскага ядра партыі.

## III. Характарыстыка новага этапу нэп'у

*а) генэральная лінія партыі на новым этапе* (соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту прамысловасьці і сельскае гаспадаркі);

*б) рост організаванасьці і палітычнай актыўнасьці пролетарыяту* (шырокае разгортваньне соцспаборніцтва, удзел рабочых у чыстцы дзяржапарату і чыстцы партыі, новая форма контролю над дзяржапаратам—шэфства, узмацненьне вылучэнства, разгортваньне самакрытыкі, уступленьне рабочых у партыю цэлымі цэхамі);

*в) зрух асноўнай масы сялянства да соцыялізму* (вытворчая змычка з горадам, пераход да суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы).

Асноўны вывад: «Соцыялістычны сэктар трымае зараз у руках усе гаспадарчыя падважнікі ўсяе народнае гаспадаркі, хоць да пабудовы соцыялістычнае грамады і зьнішчэньня клясавых адзнак яшчэ далёка» (Сталін).

## IV. Практычныя заданьні

а) параўнайце склад вашай ячэйкі з ячэйкамі іншых прадпрыемстваў і прапануйце мерапрыемствы да ўзмацненьня вярбоўкі ў партыю;

б) як ячэйка вядзе барацьбу з нацыянальнымі ўхіламі.

ЛІТАРАТУРА

Даклады т.т. Сталіна, Кагановіча, Орджанікідзе, рэзолюцыі XVI і XIII зьездаў партыі па пытаньні ўнутрыпартыйнага становішча, постанова ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб ліквідацыі акруг.

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП (б)Б

## Резолюцыя сэкратарыяту ЦК КП(б)Б ад 7 ліпеня 1930 году

### Па дакладу аб становішчы яўрэйскіх колгасаў па БССР

Заслухаўшы даклад аб становішчы яўрэйскіх колгасаў у БССР, сэкратарыят ЦК КП(б)Б адзначае:

1. Побач з масавым рухам у справе колектывізацыі батрацтва і бедняцка-серадняцкага сялянства БССР наглядаюцца таксама і вялікія посьпехі ў справе ўцягненьня яўрэйскай местачковай беднаты ў колгасы (паводле зьвестак з 5 акруг БССР, у жніўні 1929 г. было 1305 сем'яў у яўрэйскіх колгасах, а ў маі 1930 г.—2796 сем'яў яўрэяў-колгасьнікаў).

2. Яўрэйскія колгасы і колгасьнікі, як і іншыя колгасы Беларусі, адыгралі вялізарную ролю ў справе колектывізацыі ваколічнага батрацка-бедняцка-серадняцкага сялянства, у выніку чаго мы маем узбуйненьне шэрагу яўрэйскіх колгасаў за лік уцягненьня батрацтва і ваколічнага бедняцка-серадняцкага сялянства.

3. Рост гэтых колгасаў, як за лік яўрэйскіх местачковых працоўных і беднаты, гэтак і актыўнае ўцягненьне самымі яўрэямі колгасьнікамі працоўных іншых нацыянальнасьцяй, пасьпяховыя вынікі севу гэтых колгасаў, дасягнутыя энэргічнай працай колгасьнікаў усіх нацыянальнасьцяй, яшчэ раз даюць адпор усялякім шовіністычным размовам аб немэтазгоднасьці ўцягненьня ў яўрэйскія колгасы працоўных іншых нацыянальнасьцяй і тэндэнцыям застаўленьня гэткіх нацыянальна-замкнёнымі; таксама праца ў гэтых колгасах уцягнутых членаў колгасаў з местачковай беднаты адхіляе ўсялякія размовы антысэміцкіх элемэнтаў аб нядольнасьці яўрэйскай беднаты да фізычнай працы ў сельскай гаспадарцы.

Адначасова з гэтым сэкратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што ў будаўніцтве яўрэйскіх колгасаў на месцах і пры ўзбуйненьні быў дапушчаны цэлы шэраг перагібаў і памылак, якія выразіліся ў наступным:

1. Ня гледзячы на дырэктывы партыі аб неабходнасьці захаваньня добраахвотнасьці ў галіне колгаснага будаўніцтва, на месцах дапушчаліся моманты адміністраваньня пры зьліяньні і ўзбуйненьні колгасаў і выпадкі правядзеньня гэтай працы без адпаведнай падрыхтоўкі як сярод колгасьнікаў, гэтак і сярод ваколічнага батрацтва і бедняцка-серадняцкага сялянства, часам без абгаварэньня на сходах колгасьнікаў.

2. Пры адсутнасьці ў некаторых выпадках адпаведных умоў стараліся ствараць «гіганты», зачастую штучна склейваючы групы колгасьнікаў, раскіданых па далёкіх адзін ад другога населеных пунктах.

3. Ёсьць факты замазваньня на месцах ролі старых апраўдаўшых сябе моцных яўрэйскіх колгасаў, як цэнтраў аграмаджаньня сельскай гаспадаркі, і таксама выпадкі недастатковага скарыстаньня ў шэрагу колгасаў актыву з старых членаў на кіруючай працы ўзбуйненых колгасаў.

4. Комзэт і організацыі Озэт у ходзе масавай колектывізацыі не пераключылі сваю працу ў напрамку ўзмацненьня абслугоўваньня колгасьнікаў як яўрэйскіх колгасаў, так і яўрэяў-колгасьнікаў у зьмешаных колгасах.

5. Маюць месца слабае рэагаваньне на наглядаючыяся праявы шовінізму і антысэмітызму ў колгасах, як праявы клясава-варожых нам настрояў.

6. Пры чыстцы яўрэйскіх колгасаў аднначасова з ачышчэньнем іх ад сапраўды нэпманаўскіх і іншых шкодных элемэнтаў мелі месца левыя перагібы—выключэньне з гэтых колгасаў беднякоў па фармальных адзнаках—лішэнец, былы дробны гандляр.

Выходзячы з вышэйадзначанага, сэкратарыят ЦК КП(б)Б прапануе наступныя мерапрыемствы:

1. Усім АК і РК КП(б)Б прыняць рашучыя меры па зьнішчэньню фактаў адміністрацыйнага зьліяньня і ўзбуйненьня яўрэйскіх колгасаў, памятаючы, што гэтая праца павінна быць праведзена на грунце добраахвотнасьці, належнай падрыхтоўчай масавай працы і экономічнай мэтазгоднасьці.

2. У сувязі з тым, што ў узбуйненых колгасах прынят новы статут с.-г. арцелі, а маючыяся ў гэтых колгасах старыя члены колгасаў ужо даўно поўнасьцю абагулілі ўсю сваю буйную і дробную жывёлу, а таксама і гароды, у сувязі з чым у гэтых колгасах наглядаюцца ненормальнасьці ў формах аплаты за працу, прапанаваць Колгасцэнтру распрацаваць гэтае пытаньне ў бліжэйшы час і даць належныя паказаньні месцам.

3. Колгасцэнтру і АК КП(б)Б даць паказаньні месцам аб захаваньні ўкладаў старых членаў колгасаў, стымулюючы ў далейшым пашырэньне гэткіх і ўцягваючы ўклады таксама і новых членаў колгасаў.

4. Шырэй уцягваць актыў старых членаў узбуйненых яўрэйскіх колгасаў у кіруючую працу гэтых колгасаў.

5. Прапанаваць Колгасцэнтру даць паказаньні месцам аб парадку забесьпячэньня з абагуленай продукцыі колгасаў продуктамі харчаваньня тых колгасьнікаў, якія поўнасьцю абагулілі дробную і буйную жывёлу і гароды, а таксама і аб парадку забесьпячэньня батракоў у гэтых колгасах.

6. Прапанаваць Колгасцэнтру ў месячны тэрмін праверыць склад вычышчаных з яўрэйскіх колгасаў у час іх чысткі і ў выпадку выяўленьня фактаў скрыўленьня лініі прыняць меры да выпраўленьня, кіруючыся пастановай ЦВК БССР ад 25/V-г. г., аднначасова працягваць самаачышчэньне колгасаў ад кулацка-нэпманскіх і іншых шкодных элемэнтаў.

7. Прапанаваць Белколгасбанку і Комзэту прадугледзець забесьпячэньне сродкамі на жыльлёвае будаўніцтва для перасяляемай з мястэчак у колгасы яўрэйскай беднаты.

8. АК КП(б)Б, Колгасцэнтру, Комзэту і Озэту ўзмацніць кіраўніцтва і інтэрнацыянальнае выхаваньне колгасьнікаў у зьмешаных колгасах, вядучы барацьбу супроць усялякіх праяў шовінізму і антысэмітызму ў іх.

9. Організаваць ва ўсіх нацыянальных колгасах працу з беднатой, забясьпечыўшы праз узмоцненую працу сярод беднаты і батрацтва гэтых колгасаў клясавае і інтэрнацыянальнае выхаваньне колгасьнікаў.

10. Прапанаваць усім АК і РК КП(б)Б, Колгасцэнтру, НКАсьветы, Комзэту і Озэту ўзмацніць культпрацу і антырэлігійнае выхаваньне ў зьмешаных колгасах і ў яўрэйскіх нацыянальных колгасах, забясьпечыўшы ў гэтай працы абслугоўваньне яўрэяў-колгасьнікаў на іх роднай мове (бібліотэкі, школы, газэты і г. д.).

11. Комзэт'у і організацыям Озэт'у больш прыстасаваць сваю працу да абслугоўваньня яўрэяў-колгасьнікаў як у нацыянальных яўрэйскіх колгасах, гэтак і ў зьмешаных колгасах.

12. Даручыць Дзяржпляну БССР паскорыць організацыю перапісу нацыянальнага складу колгасаў БССР.




*Адказныя рэдактары:* **О. Канакоцін і А. Гаруновіч**

1930 г. **ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА** 1930 г.

# НА ПЭРЫОДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

# „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

**Мастацкая ілюстраваная 2-тыднёвая часопіс**

на 1 мес.—30 к.; 3 мес.—75 к.; 6 мес.—1 р. 50 к.;
1 год 3 р.

# „ПОЛЫМЯ“

**Часопісь літаратуры, політыкі, экономікі і крытыкі**

ВЫХ. ШТОМЕСЯЧНА

на 1 мес —1 р.; 3 мес.—3 р.; 6 мес.—5 р.; 1 год 10 р.

**Гадавым падпісчыкам на „ПОЛЫМЯ“ даецца растэрміноўка:**

пры падпісцы 4 р.; 1 верасьня 3 р.;
1 лістапада 3 р.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:**

Бюро падпіскі БДВ—Ленінская, 19, тэл. 17—12.
Цэнтр. кнігарня „ — „ 19, „ 17—95.
Усімі акруговымі аддз. БДВ.
Газэтным Бюро.
Аддзелам падпіскі ГИЗ'а РСФСР і ўсімі ўпаўнаважанымі БДВ, маючымі адпаведныя пасьведчаньні.

**Белдзяржвыдавецтва.**

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

**ОРГАН ЦККП(б)Б**

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліяграфію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Цана 25 кап.**

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і камсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы і зьвенавы арганізатар, кожны партыйны актывісты павінен падпісацца на часопісь**

**„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК"**